

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 2 лістапада 1990 г. № 44 (3558) ● Цана 10 кап.**


## Унумары:





Мікола ПРАКАПОВІЧ

## ДЗЯДЫ

Заблытаны шляхі,
і вочы засціць дым...
Быў вольным гэты край,
распяты чужакамі.
Праз горкія гады
вяртаюцца Дзяды,—
**ВЯРТАЕЦЦА НАША**
**ПАМЯЦЬ.**

На нерушы снягоў
крывавяцца сляды...
Усталі пад штандар
нашчадкі касінераў.
Праз горкія гады
вяртаюцца Дзяды,—
**ВЯРТАЕЦЦА НАША**
**ВЕРА.**
Бясконцы калаўрот
нянавісці, дзяльбы...

Я ў вочы зазірну
і ў іх пазнаю брата.
Праз горкія гады
вяртаюцца Дзяды,—
**ВЯРТАЕЦЦА НАША**
**ЗАЎТРА.**

І свеціцца далонь
у прыцемках бяды...
Радзіму захінем
гарачымі рукамі.
Праз горкія гады
вяртаюцца Дзяды,—
**ВЯРТАЮЦЦА РАЗАМ З НАМІ.**

---

*Гэты здымак фотакарэспандэнт А. Кляшчук зрабіў на Дзяды ў Курапатах летась.*

*Дзяды-90 (санкцыяніраваны мітынг-рэквіем) адбудуцца заўтра. 3 лістапада, у мінскім парку Чэлюскінцаў. Збор удзельнікаў ля аднайменнай станцыі метро а 14 г. А 19 г. у Доме літаратара пройдзе памінанне Дзядоў-продкаў*

# «АПОШНІ ПАРАД НАДЫХОДЗІЦЬ...»

## Насустрач 73-й гадавіне Вялікага Кастрычніка

*Набліжаюцца кастрычніцкія святы, якія ў нас па традыцыі адзначаюць у лістападзе. Будуць адзначаць і сёлета. Ёле — як? Вось ужо некалькі тыдняў уважліва сачу за газетнымі паведамленнямі на гэты конт і міжволі згадваю песню пра легендарны крэйсер «Вараг»...*

*Што пішуць газеты? У Таджыкістане, напрыклад, урачыстасці пройдуць традыцыйна, з ваенным парадам і дэманстрацыяй працоўных, а ў Эстоніі 7 лістапада афіцыйна, на дзяржаўным узроўні, адзначацца не будзе. У сталіцы Азербайджана святкаванне Вялікага Кастрычніка адмяніў ваенны камендант горада. Прэзідэнт СССР выдаў указ аб правядзенні ваенных парадаў у Маскве, сталіцах саюзных рэспублік, іншых гарадах, дзе знаходзяцца штабы ваенных акруг і флатоў, а таксама ў Ленінградзе, савецкія ўлады якога, праўда, лічаць правядзенне парада немэтазгодным. У Львове парад адбудзецца, але не ў цэнтры горада, а каля штаба Прыкарпацкай ваеннай акругі. У Латвіі таму, хто 7 лістапада не выйдзе на працу, па ўсім відаць, запішуць прагул. З'езд «Дэмакратычнай Расіі» выступіў з прапановай абвясціць гэты дзень днём памінання ахвяр камуністычнага тэрору і масавага прымірэння. Сакратарыят ЦК КПСС заклікаў «захаваць жывую душу лістападаўскай урачыстасці: яе аб'ядноўваючую скіраванасць, дух салідарнасці і інтэрнацыяналізму». Савет Міністраў краіны перанёс выхадны дзень — «з мэтамі стварэння спрыяльных умоў для адпачынку працоўных і рацыянальнага выкарыстання працоўнага часу»...*

*Як бачым, уся краіна рыхтуецца сустрэць Кастрычнік. Так ці інакш, вядома. Варыянтаў сёлета багата, як ніколі: свята дзяржаўнае ці антыдзяржаўнае, партыйнае — антыпартыйнае, нацыянальнае — антынацыянальнае і г. д. Хочаш — радуйся, хочаш — смуткуй. Зрэшты, не падабаецца — не адзначай.*

*Але, мяркую, увечары 7 лістапада ўсё ж будзе знойдзены кансенсус і ўсталюецца менавіта тая атмасфера, якая робіць усе нашы святы падобныя на Новы год. Ва ўсялякім выпадку, у гэты час нават складальнікі заявы ЦК КПБ «Вялікі Кастрычнік — наш лёс» наўрад ці «галоўную ўвагу» будуць сканцэнтроўваць «на пошуках шляхоў выхаду з крызіснай сітуацыі, стабілізацыі эканомікі, умацаванні дысцыпліны і правапарадку». І, дарэчы, ніхто іх гэтым не ўпікне. Свята ёсць свята.*

*Увогуле, нельга не адзначыць ухвальнае імкненне ўсіх, хто заняты падрыхтоўкай да 73-й гадавіны Кастрычніка, да разважлівасці і памяркоўнасці. Сапраўды, сітуацыя такая, што вельмі небяспечна лішні раз «разгойдваць човен». Прыкметы нейкай нервовасці я заўважыў хіба ў рэзалюцыі XXXIV Савецкай раённай справаздачна-выбарчай партыйнай (?) канферэнцыі г. Мінска, дзе выказана трывога з нагоды «спроб пазбавіць наш народ нацыянальнага, дзяржаўнага свята» і лічыцца неабходным «правесці арганізатарскую і палітычную работу» (рэзалюцыя звернута да «камуністаў, жыхароў Савецкага раёна, якія падзяляюць гістарычны выбар, зроблены ў кастрычніку 1917 г.»).*

*І апошняе. Як грамадзянін, выбаршчык і падаткаплацельшчык я горача падтрымліваю прапанову прэзідыума Мінсавета «выключыць неабгрунтаваныя выдаткі» на правядзенне грамадска-палітычных мерапрыемстваў 7—8 лістапада. Таксама горача падтрымліваю прапанову гарадскіх улад аб тым, каб Вярхоўны Савет БССР, «зыходзячы з Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР», разгледзеў пытанне аб мэтазгоднасці правядзення ваеннага парада ў г. Мінску 7 лістапада сёлета і ў наступныя гады». Праўда, начальнік Мінскага гарнізона генерал-лейтэнант М. Кендзюхоў абвясціў ужо, што камандаваць парадам даручана яму... Няхай скамандуе? Апошні раз?..*

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**




Мал. А. ГАРМАЗЫ.

**Як паведамлялася ў друку, нядаўна ў Рыме адбылася канферэнцыя, прадстаўнікоў рускай і савецкай літаратур, мэтай якой было дасягненне нейкага паразумення іх розных поглядаў і пазіцый. У канферэнцыі прыняло ўдзел каля двух дзесяткаў відных сучасных пісьменнікаў і журналістаў з Масквы і эміграцыі, быў выпрацаваны тэкст «Рымскага звароту», абраны аргкамітэт для далейшай працы ў напрамку кансалідацыі творчых сіл краіны. Ніжэй змяшчаецца тэкст выступлення Васіля Быкава, які прысутнічаў на гэтай канферэнцыі.**



**Васіль БЫКАЎ**

# АБУДЗІЦЬ У САБЕ СУМЛЕННЕ

Не бяруся меркаваць, ці гэта заканамернасць або гістарычны казус, але факт, што галоўнай эмацыянальнай сілай нашага грамадства, яго своеасаблівай нацыянальнай рэлігіяй стала нянавісць. Выхаваная на працягу дзесяцігоддзяў нашай гісторыі, яна дасягнула свайго максімальнага, класічнага ўвасаблення ў гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, хаця і пасля іх не выявіла намеру паменшаць. Ленінізм як і ідэалогія і палітыка з моманту свайго зараджэння ўзялі нянавісць у якасці галоўнага і дзейснага сродку для хуткага дасягнення разбуральных мэтаў. Сталінізм выдатна развіў гэта пачуццё ў народных масах, сублімаваў яго ў якасці універсальнай зброі ажыццяўлення нечуванай па маштабах таталітарнай палітыкі. Нянавісць стала амаль арганічнай часткай вялізнай ідэі таталітарнага заняволення чалавека. На ўдасканаленне і развіццё гэтай заалагічнай ідэі былі скіраваны вялізныя матэрыяльныя і духоўныя сілы грамадства. Бальшавікі вельмі рана і добра зразумелі ўсю перавагу гэтага пачуцця і, захапіўшы ўладу, панішчылі перш за ўсё рэлігію, як галоўную маральную перашкоду на шляху нянавісці. І гэта зразумела: бальшавізм і хрысціянства аказаліся ўзаемавыключнымі ідэямі, адна з іх павінна была саступіць. Робіцца ўсё больш відавочным, што гвалтоўнае вынішчэнне з нашага жыцця хрысціянскай рэлігіі — катастрофа, можа быць, самая вялікая з ўсіх, якія калі-небудзь спасцігалі нашу краіну.

Ад пачатку перабудовы шмат што ў краіне перамянілася; знікае страх як магутны сродак арганізацыі і падаўлення нацыі. Але нянавісць засталася. Яна раз'ядноўвае народы, нацыянальнасці, класы, пазбаўляе людзей маральных арыенціраў, бянтэжыць розум інтэлігенцыі. І ўсё гэта праз нашу задоўжаную ў гісторыі несвабоду, наша застарэлае нявольніцтва, якім мы цяжка прыдушаны на працягу стагоддзяў і не можам ад яго вызваліцца нават пры канцы дваццатага стагоддзя. Ды і не спяшаемся тое рабіць. Падобна, што наша паднявольнае становішча нам падабаецца, бо іншае нам невядома. Або таму, што ў нас быццам бы «асаблівы шлях», дзе ўсё перакулена дагары нагамі. Пазбаўленыя маралі і творчай свабоды, мы страцілі густ да працы і, здаецца, страчваем густ да самога жыцця. Густ да нармальнага чалавечага жыцця нам падмянілі пячорным інстынктам барацьбы — малаважна за што і з кім. Барацьбы з яўным, а лепш з надуманым ворагам, чужой ідэалогіяй, за светлую будучыню і высокі ўраджай. Але абавязкова, каб змагацца і перамагаць. Нават тады, калі ўжо з самага пачатку зразумела, што нашая перамога не прынясе нам нічога добрага. Наша свядомасць, вызваленая ад старажытных хрысціянскіх дагматаў, сем дзесяцігоддзяў засмечана антычалавечымі догмамі, у аснове якіх усё тая ж, ледзьве закамуфляваная жывёльная нянавісць. Менавіта наша нянавісць,—класавая, ідэалагічная, дзяржаўная — апроч усяго іншага, даўно і багата поўніць сусветнае зло ва ўсіх яго сучасных формах і відах. З'яўляючыся пракляццем для чалавецтва, яшчэ нядаўна яна пагражала самому існаванню чалавечага роду.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму так адбываецца? Ці, можа, недарэчнасць — усё тое наша праклятае пачуццё, як і прычыны, што яго нараджаюць? Але ўся справа ў тым, што не недарэчнасць. Наша гісторыя і наша паўсядзённае існаванне няспынна генеруюць самае спрыяльнае асяроддзе для татальнай нянавісці, усё новыя пакаленні і народы захопліваюцца ў яе арбіты. Зразумела, што ў такіх умовах не можа існаваць дабро, яно проста не ў стане прыжыцца.

Гады перабудовы выявілі новыя заканамернасці нашага існавання, калі адна, так сказаць, агульнадзяржаўная нянавісць распалася на мноства іншых нянавісцяў — нацыянальных, партыйных, карпаратыўных, групавых. Ксенафобія, русафобія, антысемітызм... Але таму, што нянавісць зрабілася драбнейшай, лепшай яна не стала. Ненавідзяць усе і ўсіх. Народ ненавідзіць партыю і яе кіраўніцтва, якія завялі краіну ў пастку. Страчваючы ўладу, партыя гатова узненавідзець народ, які марудна ўстае з каленяў і праяўляе непаслухмянасць. Інтэлігенцыя ў спрадвечным выбары паміж ісцінай і разлікам падзялілася на два варажнечыя лагеры. Ва ўмовах эканамічнага крызісу краіну ахапіла мітуслівая барацьба за прывілеі, гэтыя жабрацкія крошкі са збяднелага панскага стала. Ветэраны мінулай вайны поўныя варажнечы да маладых, запэцканых ваеннай авантурай «афганцаў». а тыя ў сваю чаргу — да абстарэлых пераможцаў нямецкага фашызму. Усіх разам іх ціха, але глыбока не любіць сучасная моладзь, якую і тыя і іншыя спрабуюць выхоўваць у даўно скампраметаваным духу патрыятызму. У адрозненне ад старых часоў, калі выхаваныя людзі стараліся ўтаіць гэта нехрысціянскае пачуццё, цяперашнія ім адкрыта ганарацца. Як ганарацца сваёй нецярпімасцю да ўсяго, што не наша, што не так, як у нас. Бо ў нас, як вядома, «свой асаблівы гістарычны шлях», свая мараль і свая «своеасаблівая стать». Чужы, нават самы дадатны вопыт для нас — не прыклад, нам трэба свой. Але свой ужо быў, былі дзесяцігоддзі нечуваных эксперыментаў з іх горкім, трагічным вынікам. Дзіўна, што, не ўмеючы што-небудзь вынайсці сваё, вартае, мы з упартасцю маньякаў адмаўляем не толькі заходні быт, прагматызм, культуру, але і здаровы сэнс, які ляжыць у аснове усіх эканамічных дасягненняў Захаду.

Выхаваныя ў шматгадовай няволі, мы ненавідзім тых, хто памкнуўся да волі. Мы ім тут жа перакрываем кісларод, пазбаўляем энергетычнага дыхання і г. д. Бо чаму так пасмелі? Маўляў, мы таксама жывём не лепей, але ж мы не імкнёмся да сепаратызму. Мы — да гурту. Толькі ўсе заадно, усе разам. Але былі ўжо разам аж семдзесят год і што з таго атрымалася, вядома ўсяму свету. Нас заўсёды палохалі непапраўнай заразай плюралізму, згубнасцю здрады «асноўным прынцыпам», у якой тоіцца багна капіталістычнага распаду. Але багна аказалася не там, дзе яе бачылі, а там, дзе на яе заплюшчвалі вочы. Цяпер нас палохаюць анархіяй дэмакратыі, развалам сацыялізму, грамадзянскай вайной, калі толькі мы адмовім «свяшчэннай» партыі ў яе кіраўнічай ролі. Рухне імперыя? Але хто сказаў, што адміранне імперыі цягне за сабой пагібель для яе падданых? Ці не наадварот адбывалася ў гісторыі? І ці не ў тым наша няшчасце, што наша імперыя аказалася такой жывучай, што не распалася шмат год назад. Калі б той распад здарыўся ў прыдатны для таго час, якой бы бяды маглі пазбыцца многія нашы пакаленні. Але агонія яе задоўжылася і атручвае жыццё навакол. Не толькі нашае, але і народаў Еўропы, Азіі і нават Амерыкі. Адвучаныя ад уласнага шчасця, мы пільна сочым, каб свайго шчасця не здабылі іншыя. Так было ўсе ранейшыя гады, так без асаблівых змен засталося і цяпер. Рэальная (не папяровая) незалежнасць Балтыі або Украіны палохае нас болей, чым перспектыва ўласнага голаду; рызыка застацца без цэнтрысцкага камандавання многім атручвае слодыч жыцця. Зайздрасць да таго, хто можа забагацець і жыць лепей за нас, трывожыць нас болей, чым уласнае жабрацтва.

Дык што ж мы — яшчэ не саспелі для разумнага чалавечага жыцця ва ўмовах дэмакратыі? Выходзіць, аднак, не саспелі. Мабыць, сапраўды нельга адразу, калі дазволена, пераскочыць ад тыраніі да волі—надта вялікая прорва, што іх падзяляе. Яе не адолець за адзін скачок. А за два таксама не атрымаецца. У тым увесь трагізм моманту, які перажывае краіна.

Галоснасць і шматпакутная перабудова дала нам магчымасць трошкі расплюшчыць вочы і ўпершыню за шмат год незамутнёным позіркам зірнуць на сябе. Зірнуць і жахнуцца ад нашай пачварнасці. Жахнуўшыся, некаторыя тут жа закрычалі: нашто! Так добра было жыць у створаным партыйнай прапагандай ілюзорным свеце, не бачачы сябе, іншых і адно ганарыцца — уласнай нацыянальнасцю, партыяй, арміяй, КДБ. Сродкі масавай інфармацыі разбурылі нашу санлівасць, дык што ж цяпер: адмяніць галоснасць? Зрабіць гэта вельмі нават проста: цэнзура ліквідавана, але цэнзары — усе на месцах, армія ў пастаяннай баявой гатоўнасці, да позняй начы гарыць святло ў палацах КДБ. Ранейшы дзяржаўны стан можна аднавіць за адзін ранак, і шмат якія з цяперашніх праблем знікнуць.

Але што будзем есці?

Дык што ж нам рабіць? Калі мець на ўвазе творчую інтэлігенцыю краіны, дык нашыя магчымасці ў наладжванні эканомікі роўныя нулю, мараль нам таксама не падначалена. Выхаваць будучыя пакаленні, як нам хочацца, мы не ў стане, бо даўно ўжо збанкрутавалі ў якасці выхавальнікаў. Мабыць, варта пачаць з малога: паспрабаваць абудзіць у сабе сумленне як пярвічны элемент маральнасці. Без карыслівасці, без эгаізму, без крывадушша ўпусціць у душу нейкую часцінку дабрыні і цярпімасці. Хоць бы да свайго бліжняга, да сабрата-пісьменніка. Нават калі ён думае і піша інакш, чым ты, калі ён разумнейшы за цябе ці тым болей дурнейшы. Калі ён іншай крыві і не можа ганарыцца сваёй прыналежнасцю да вялікага народа. А, дапусцім, належыць да малога ці маналікага. Трохі скарыць сваю выхаваную за дзесяцігоддзі ганарлівую пыху, зірнуць адзін аднаму ў вочы і, можа, паспрабаваць засаромецца.

Усё ж сорам — пачуццё болей вартае за нянавісць.

## З пошты «ЛіМа»

# • Узяць урокі з мінулага
# • Ёсць ужо і Цэментагорск
# • Лепш позна, чым ніколі...

□

**Дазвольце** мне, не прафесіяналу, а толькі прыхільніку роднага слова, выказаць некалькі заўваг па праблеме, якая нагадана ў лісце «Жыццё прымусіць...» («ЛіМ», 31.08.90 г.). Відаць, рэдакцыя змясціла ліст, як дыскусійны па актуальнай праблеме. Праблема існуе, тут з аўтарам трэба пагадзіцца.

Калі вяртацца да рэформы мовы 1933 года, дык, відаць, пытанне мэтазгодна было б ставіць так. Спачатку прыняць тыя змены, якія не выклікаюць ніякіх супярэчнасцей ні ў навукоўцаў, ні ў грамадскасці (той жа мяккі знак ці пераднаціскное «я»), і толькі потым спакойна, уважліва і глыбока абмеркаваць усё грунтоўна. Было, ёсць і будзе многа спрэчнага. Яшчэ Я. Ф. Карскі адзначаў, што беларуская мова падзяляецца на паўночна-ўсходнюю і паўднёва-заходнюю, існуюць дыялекты. Якая зараз павінна быць прынята норма, вырашыць не проста. Напрыклад, тое ж «ратуйма».

Мае родзічы паходжаннем з вёскі, абапал якой некалькі гарадзішчаў, якім на паўтары тысячы год. Ёсць меркаванне, што вяскоўцы — нашчадкі тых прашчураў, якія жылі тут і ў сівой даўніне. Але я ні разу не чуў ні ад бабулі, ні ад прабабулі, каб яны казалі «ратуйма» — я чуў «ратуйце». А як я зараз разумею, яны размаўлялі на добрай беларускай мове. Дык як тут быць?

Мы заўсёды жылі паміж рускімі і палякамі і нават і з палякамі і з рускімі. І таму ўплыў адной мовы на другую натуральны. Але ж, мяркую, толькі таму, што камусьці не падабаецца рускае, не трэба хіліцца да польскага. Гэтае схіленне праяўляецца апошнім часам усё больш выразна. Хоць круць — хоць верць, а мы беларусы і гэтым трэба ганарыцца.

Дзіўна, што яшчэ не заціхлі размовы аб «палескай мове», як тут жа ўзнікла пытанне аб польскай мове беларусаў пры богаслужэнні ў касцёле; не паспелі падумаць аб мове набажэнства ў цэрквах і касцёлах, як з'яўляецца прапанова аб пераходзе на лацінскі шрыфт. Я вучыўся ў тэхнічнай авіяцыйнай установе, вывучаў дзве замежныя мовы — нямецкую і англійскую і неяк не заўважаў цяжкасцей ад таго, што да гэтага карыстаўся кірыліцай. Хутчэй наадварот — спачуваю англічанам, якія вымушаны пісаць адно, а вымаўляць часам зусім іншае, што таксама мы назіраем і ў славянскіх — чэшскай, польскай, харвацкай — мовах. Відаць, не памыліліся нашы асветнікі Кірыла і Мяфодзій, калі з грэчаскага алфавіту ўзялі толькі тыя літары, якія адпавядалі славянскаму вымаўленню, і дабавілі, стварылі яшчэ столькі сваіх, колькі патрэбна было для славянскага гучання.

Як бы ні хацелася хутка прыйсці ў моўным пытанні да ідэалу, але, відаць, ідэал усё ж у глыбокім вывучэнні не толькі даўніны, а і сучаснасці, і апошняе слова ўсё ж за навукоўцамі.

**В. АРЛОЎ,**
**член гарадской рады ТБМ у Віцебску, выкладчык Віцебскага тэхналагічнага інстытута.**

□

**УЗЯЦЦА за пяро мяне вымусіла адна з радыёперадач. Аўтар яе расказваў пра дэфіцыт урачоў-педыятраў у Беларусі і спадзяваўся вырашыць гэту праблему ўвядзеннем закона аб мовах. На яго думку, закон зможа абараніць мясцовых абітурыентаў ад канкурэнцыі моладзі з іншых рэспублік, што не валодаюць беларускай мовай, і гэтым самым будзе спрыяць замацаванню ўрачэбных кадраў.**

**Думаецца, што такім чынам праблему гэтую не вырашым. Падрыхтоўка ўрачоў у нас цяпер вымушае жадаць лепшага і не адпавядае сусветным стандартам. У пацвярджэнне гэтага дастаткова прывесці свежы прыклад. Былы хірург 9-й клінічнай бальніцы нават з дыпломам доктара медыцынскіх навук не здолеў працаваць у ЗША па сваёй спецыяльнасці і вымушаны быў уладкавацца шафёрам таксі, а яго жонка з урачэбным дыпломам — медсястрой. Гэта вынік нізкага ўзроўню падрыхтоўкі медыцынскіх кадраў у краіне, калі скрозь і ўсюды якасць замяняе колькасць.**

**Але параўнаўча нядаўна карціна была зусім іншая. У мінулым стагоддзі расійскія ўрачы па сваёй кваліфікацыі намнога апярэджвалі замежных калег. Ні адзін урач, які закончыў навучальную ўстанову за мяжой і нават меў там практыку, не мог атрымаць службы ў Расіі, пакуль не здаваў зноў належных экзаменаў. Высокі прафесійны ўзровень медыкаў забяспечваўся строгім адборам будучых студэнтаў. Гэта відаць на прыкладзе Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Конкурс у ёй перавышаў пяць чалавек на месца. Акадэмія імкнулася залучыць здольную моладзь розных нацыянальнасцей, вось чаму ўступныя экзамены тут прымалі не толькі на рускай, але таксама на французскай, нямецкай і польскай мовах. Насуперак існуючай думцы, нацыянальная варожасць тады не практыкавалася. У акадэміі вучыліся рускія, украінцы, беларусы, палякі, немцы, татары, французы, шведы, фіны, яўрэі... Разнастайны быў і сацыяльны склад. Разам з дваранамі ў ёй вучыліся дзеці свяшчэннаслужыцеляў, сялян, мяшчан, ваеннаслужачых, разначынцаў і іншаземцаў (апошніх было 4 працэнты). Асноўным крытэрыем вартасці былі веды. Высокія патрабаванні захоўваліся ўвесь час навучання. Калі студэнт не здаваў адзін экзамен, ён заставаўся на тым жа курсе для паўторнага навучання, а пры нездачы двух — выключаўся з навучальнай установы. Толькі трэць паступіўшых пераадольвала пяцігадовы акадэмічны курс і атрымлівала ўрачэбны дыплом. Не дзіўна, што са сцен навучальнай установы выходзілі высокаадукаваныя спецыялісты, якія працавалі ў розных рэгіёнах краіны, у тым ліку і ў Беларусі.**

**У дарэвалюцыйным Мінску, як і ва ўсёй Беларусі, не было вышэйшай медыцынскай школы. Аднак у горадзе працавала нямала ўрачоў са ступенню доктара медыцыны, што сведчыла аб іх высокай кваліфікацыі. Іх нярэдка запрашалі прыват-дацэнтамі (няштатныя выкладчыкі) ва універсітэцкія цэнтры і нават выбіралі прафесарамі. А. Сіцінскі быў абраны прафесарам Варшаўскага універсітэта, Н. Цыбульскі — прафесарам Кракаўскага універсітэта. Урач Мінскай губернатарскай земскай бальніцы Ф. Кодзіс да прыезду ў горад загадваў кафедрай Вашынгтонскага універсітэта г. Сент-Луіс у ЗША. Мінскія ўрачы былі на вышыні сусветнай навукі. Нагадаем, што яны пачалі прымяняць настойку ёду для апрацоўкі аперацыйнага поля раней, чым гэта зрабіў італьянскі хірург Антоніо Гросіх, які лічыцца адкрывальнікам гэтага метаду. Падобных прыкладаў было нямала.**

**Высокі прафесіяналізм медыкаў спалучаўся з такой жа інтэлектуальнасцю. Амаль кожны ўрач свабодна валодаў некалькімі замежнымі мовамі. Пры наведванні клінік Берліна, Будапешта, Вены, Варшавы, Парыжа, Прагі яны абыходзіліся без перакладчыкаў, а на міжнародных медыцынскіх кангрэсах і нацыянальных з'ездах у Францыі і Германіі рабілі паведамленні на мовах краін-арганізатараў.**

**Урачэбныя таварыствы Беларусі вызначаліся шматнацыянальным складам і адсутнасцю нацыянальнай варожасці. Аб'яднанні рускіх, беларусаў, палякаў, яўрэяў, літоўцаў, немцаў і асоб іншых нацыянальнасцей змаглі захаваць сваё адзінства. У той час, калі нацыяналізм і шавінізм, культываваны царызмам, пачаў ужо пранікаць і ва ўрачэбнае асяроддзе. Асобныя медыцынскія таварыствы падкрэслівалі свой нацыянальны склад нават у сваіх назвах. Так, у Маскве і Пецярбургзе асобна існавалі таварыствы нямецкіх і рускіх урачоў, у Рызе — таварыства нямецкіх, а потым створаны яшчэ тры — рускіх, латышскіх і яўрэйскіх урачоў.**

**Мэта гэтага гістарычнага экскурса — узяць урокі з мінулага.**

**А. МАЛЧАНАЎ,**
**урач Мінскага гарадскога анкалагічнага дыспансера, кандыдат медыцынскіх навук.**

□

**Пайшла ў нас** сапраўдная эпідэмія на недарэчныя «горскі» ў назвах нашых гарадоў. Мала было Светлагорска і Салігорска, дык наце вам яшчэ і ЦЭМЕНТАГОРСК, што ўзнік сёлета ў Касцюковіцкім раёне. І там жа з'явілася на свет новая чыгуначная станцыя ПРАДЗАВОДСКАЯ. Божа мой, якое неандэртальскае «скудоумие» закладзена ў гэтых канцылярскіх назвах...

Мабыць, з дня на дзень трэба чакаць з'яўлення на геаграфічных картах Беларусі новых гарадоў, накшталт Бетонагорска, Растворагорска, Цаглінагорска, Рыдлёўкагорска. Адначасова з гэтымі «горскамі» могуць узнікнуць і новыя чыгуначныя станцыі: ДАФАБРЫЧНАЯ, ПАСЛЯФАБРЫЧНАЯ, КАЛЯЗАВОДСКАЯ, ПАСЛЯЗАВОДСКАЯ і г. д. І я не здзіўлюся, калі заўтра Маладэчна будзе перайменавана ў Мэблягорск, Вілейка — у Рэкагорск, Браслаў — у Возерагорск, Барысаў — у Запалкагорск, а Касцяневічы — у Зверагорск, бо там побач зверасаўгас, дзе гадуюць лісіц на каўняры і шапкі.

Паўночны пасёлак у Мінску даўно пара перайменаваць у мікрараён Сібірскі, бо там усе вуліцы сібірскія: Іркуцкая, Байкальская, Енісейская, Ангарская і г. д. Абсібірылі кавалак Мінска, безумоўна, у гонар тысяч беларускіх вязняў, якія загінулі ў халодных сталінскіх сіблагах.

А ўслухайцеся ў назвы праспектаў і вуліц беларускай сталіцы. Яны ж мячыкамі адскокваюць ад нашага ўспрымання: праспект імя газеты «Правда», праспект імя газеты «Известия»... Далей, як кажуць, ужо няма куды ісці. Для поўнага «шчасця» не хапае хіба, бадай, такіх вуліц, як: Чыноўніцкая, Бюракратычная, Азотнатукавая, Гербецыдная, Пестыцыдная, Нітратна-радыёнуклідная, Шматпартыйная, Партактыўная, Прафсаюзная...

А тысячы паэтычных назваў нашых паселішчаў зніклі, канулі ў Лету разам з «неперспектыўнымі» вёскамі і хутарамі, дзе спрадвеку на зямлі, адваяванай у пушчы, шчыравалі працавітыя людзі. Мы незваротна губляем сваю спадчыну, свае карані, збядняем мову, трацім сваё нацыянальнае аблічча.

Трэба прымаць рашучыя захады, пакуль нас канчаткова не засветлагорылі, не зацэментагорылі прадзаводскія чыноўнікі струхлелай камандна-адміністрацыйнай сістэмы. Трэба спяшацца. Інакш неўзабаве і Мінск перайменуюць у Сталіцагорск.

**А. ДЗІК.**

г. Мінск.

□

**ПРАЦУЮЧЫ з архіўнымі матэрыяламі, даведаліся, што пры Беларускай акадэміі навук была створана камісія па вывучэнні матэрыяльнай культуры Беларусі (у складзе Я. Ластоўскага (старшыня), А. Шлюбскага, М. Каспяровіча, М. Мялешкі, І. Сербава), якая мела на мэце «шукаць чыстага, самабытнага беларускага мастацтва».**

**Прытым, як можна даведацца са справаздачы Я. Ластоўскага, змешчанай у бюлетэні Інбелкульта № 2 за 1927/28 г., былі падрыхтаваны да друку «Альбом беларускага народнага арнаменту», «Альбом беларускіх ткацкіх узораў Віцебшчыны», «Альбом беларускіх народных паясоў», «Манаграфія аб беларускім драўляным будаўніцтве», «Прычоскі і галаўныя ўборы беларускага старажытнага часу».**

**Апрача гэтага, Я. Ластоўскім арганізаваны ў 1928 г. дзве экспедыцыі, у выніку якіх сабрана 600 экспанатаў з народнага мастацтва і матэрыяльнай культуры, зроблена звыш 400 фотаздымкаў, сярод якіх — унікальныя матэрыялы культуры беларускага народа (цэрквы, касцёлы, келіхі, крыжы, здымкі самабытных вясковых жанчын і дзяўчат, апранутых у «знікаючыя тыпы» беларускай народнай вопраткі).**

**Куды зніклі гэтыя і некаторыя іншыя матэрыялы, як, напрыклад, здымкі розных каменных «баб», зробленыя М. Мялешкам, запісаныя ім легенды аб іх паходжанні?**

**М. ЕЎДАКІМЕНКА, З. САЗОНЕНКА, П. ЛЕЎТА, Г. КАРЫГА, М. СІПРАХА, аспіранты Мінскага педінстытута.**

□

**Прачытаў** артыкул «Ліцэй? Каледж? Гімназія!» («ЛіМ», № 35) і дужа ўзрадаваўся: адкрыццё Мінскай беларускай нацыянальнай гімназіі на роднай мове — важная падзея ў культурным жыцці беларускага народа, крок наперад у справе адраджэння беларускай мовы.

А вось у Ляхавічах зрабілі крок назад: у адкрытай сёлета школе-гімназіі ўсе прадметы будуць выкладацца... па-руску.

У сувязі з гэтым прыгадалася навукова-практычная канферэнцыя па адраджэнні беларускай мовы, якая сёлета праходзіла ў Мінску, у Доме літаратара. Аднагалосна была прынята рэзалюцыя, у якой гаварылася, што школы-гімназіі ў рэспубліцы, а таксама ліцэі павінны быць пераважна беларускамоўныя. Як жа стасуецца з гэтым факт адкрыцця рускамоўнай школы-гімназіі ў Ляхавічах? Раённыя функцыянеры тлумачылі гэта тым, што класы школы-гімназіі запаўняліся вучнямі рускамоўных школ мястэчка Ляхавічы. Але ж гэта — не аргумент. Спашлюся на такі факт: пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі паўсюдна адкрываліся беларускамоўныя школы, куды паступалі ў 4—6 класы дзеці, якія вучыліся ў польскіх школах. Гэта не з'яўлялася для іх перашкодай авалодваць беларускай мовай, а таксама вывучаць рускую. А сёння ў Ляхавічах адкрываецца рускамоўная школа-гімназія.

Калі б гэта быў адзінкавы факт, то, можа, і не варта было б гаварыць. Прыгадаю леташнюю публікацыю ў рэспубліканскім друку за подпісам загадчыка Баранавіцкага гарана Цупрыка. Ён паведамляў пра тое, што ў Баранавічах адкрываецца **«першы беларускі ліцэй»**. Навошта было падманваць грамадскасць рэспублікі, калі ў тым «беларускім ліцэі» ўсе прадметы выкладаюцца на рускай мове? Загад аб адкрыцці менавіта «русского лицея» ў Баранавічах, як і гімназіі ў Ляхавічах, таксама, наколькі мне вядома, падпісаў Міхаіл Дзямчук.

Дарэчы, трэба сказаць, што ў Баранавічах улады глядзяць на праблему беларусізацыі па-свойму, па-баранавіцку. Нядаўна раённая газета «Знамя коммунизма» напісала, што спачатку трэба навучыць размаўляць па-беларуску бацькоў, а потым дзяцей. А вось пра тое, як яна мяркуе ажыццявіць гэта, газета маўчыць.

Мушу нагадаць і яшчэ адзін факт: у Брэсце адкрыты сёлета ліцэй і таксама рускамоўны. Парадаксальна, але факт: і школа-гімназія, і рускамоўныя ліцэі ў Баранавічах і Брэсце адкрыты менавіта на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі, дзе калісьці пры панаванні прафашысцкага рэжыму польскай санацыі працоўныя Заходняй Беларусі вялі самаахвярную барацьбу за адкрыццё школы на роднай мове.

Усе гэтыя тры факты супярэчаць Дзяржаўнай праграме развіцця беларускай мовы, якая была апублікавана ў рэспубліканскім друку. У раздзеле аб асноўных мэтах і рэалізацыі Дзяржаўнай праграмы гаворыцца: «...павышэнне ролі агульнаадукацыйнай школы, усіх выхаваўчых, навучальных і культурна-асветных устаноў у **пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы** і функцыяніраванні іншых моў на тэрыторыі рэспублікі». Што датычыць рускай мовы, то яе функцыяніраванне забяспечана і без таго вельмі трывала.

Але было б недарэчна і несправядліва вінаваціць толькі міністра народнай адукацыі БССР М. Дземчука. Як вядома, пасля ўсебеларускага старасты Чарвякова, які патрабаваў, каб «кожны савецкі чыноўнік ведаў і шанаваў беларускую мову», пазнейшыя кіраўнікі рэспублікі, кожны па-свойму, выконваў і перавыконваў план «слияния» белорусского языка в единый язык», каб гэткім чысценькім звышінтэрнацыяналістам, без нацыянальнай пляменкі, без роднай мовы ўвайсці ў ілюзорнае каралеўства вечнай раскошы. Многія з іх адышлі «в мир иной», так і не папрасіўшы ў беларускага народа прабачэння за гвалт з матчынай мовы. Праўда, адзін з былых кіраўнікоў рэспублікі незадоўга да смерці, даючы ў сваёй маскоўскай кватэры інтэрв'ю карэспандэнту «ЛіМа», спавядаўся і шкадаваў, што нічога за сваю бытнасць у Беларускай рэспубліцы не зрабіў добрага для развіцця беларускай мовы і нацыянальнай культуры. Што ж, лепш позна, чым ніколі...

**В. СОКАЛ,**
**выдатнік народнай асветы БССР.**
Ляхавіцкі раён.

□

**З РАДАСЦЮ даведаўся пра тое, што дыскусіі газет «Звязда» і «ЛіМ» наконт таго, ці беларускае слова «звязда», скончыліся на карысць прыхільнікаў «ЛіМа». І тым больш прыемна, што гэта прызнала сама «Звязда», прызнала, дарэчы, у гістарычны для нас дзень 1 верасня, калі пачаў дзейнічаць Закон аб мовах у Беларускай ССР. У гэты дзень «Звязда» надрукавала красворд, дзе чытачам прапаноўвалася перакласці на беларускую мову з рускай 35 слоў. У прыватнасці, для слова «звезда» было пакінута 5 пустых клетак. Значыць, усё ж — «зорка»? 8 верасня ў гэтай жа газеце чытаем адказ: «звезда» — «зорка». Так што, застаецца толькі на практыцы ажыццявіць замену назвы «Звязды». Будзем чакаць. Толькі як доўга?**

**Алесь СВІСТУНОВІЧ,**
**дыктар Беларускага радыё.**
г. Мінск.

**Васіль ЖУКОВІЧ**



# Відушчым робіцца народ

●

Я люблю вераснёвую — раннюю — восень,
калі ў золаце клёны, цвітуць верасы,
задуменныя, моўкнуць наўкола лясы,
а між белых аблакоў — глыбокая просінь.

Незвычайна прасторна і думкам і зроку,
адчуваеш лагоду і згоду з усім.
І здаецца:
зіма, халады так далёка,
хоць яны, непазбежныя, блізка зусім.

●

Згарэў у тлуме дзень высокі.
Дом, сад — ахопленыя сном.
Але што гэта? Крокі? Крокі
Чые расталі за акном?
У цішыні было здалося:
Час прыпыніўся... Ды плады
Раняе сад, ідзе ўжо восень.
Ці бачылі яе сляды?

●

На востраве жывем.
Трывожна, адзінока.
Бяда вакол,
бяда наўкол,
бяда навокал.
Нядаўні супакой
свідруе думка востра:
няўжо канец?
Няўжо
бяда прыйшла на востраў?

Збуялая трава шалёна зелянее.
Спакойна небасхіл над востравам сінее.

●

Край мой!
Няўтульна тваім
жаўранкам,
холадна ім.
Сумна тваім салаўям,
Бацькаўшчына мая.

Скрушна тваім жураўлям,
поўная жалю зямля.

●

Ідэалогія-навала
вісела вечна над душой,
яна так доўга існавала,
яна так жорстка панавала,
узброеная ўся маной:
...няроўнасць — там, а ў нас няма,
тут пенсіі, а іх няма там,
тут — воля, там — разбой, турма,
там — войны, тут — на службе атам...

Пустыя сходы я цярпеў,
трываў бяздарныя парадкі,
плаціў партыйныя падаткі.
«Каму?!» — задумаўся цяпер.

Няхай бы жабракам раздаў,
што «падарыў» партапарату.
А час які празасядаў!
Ён мог змястоўным стаць, крылатым.

Не вернешся — жыццё. адно...
Нікога я не вінавачу,
ні перад кім — тым больш — не плачу,
а толькі каюся даўно.

## Пад лозунгам

Не жыў працоўны — бедаваў,
сабе турму ён будаваў,
вялі — ішоў, хоць быў нявінны...
А нехта зверху дыктаваў:
«Народ и партия едины».

Маячыў камунізму пік...
Вялі няўхільна ў тупік
рознапляменную краіну
пад бойкі лозунгавы крык
«Народ и партия едины».

Шчыруе век пчала-народ,
ды паядае труцень мёд;
для тых, што гнуць спрадвеку спіны,
чырвоны лозунг ёсць на рот:
«Народ и партия едины».

●

Яшчэ пяюць мае лясы,
яшчэ шумяць жывыя воды,
яшчэ ўваходжу ў храм красы,
нерукатворны храм прыроды.
Чаму ж не лёгка — цяжка мне?
Чаму не ў радасці я — ў скрусе?
Зялёны колер пачарнеў
на карце мілай Беларусі.
Атрутны поруч дождж імжыць —
то цэзій цэдзіць рукатворны.
Лісток асінавы дрыжыць,
як наша вера ў зоне чорнай.

●

Б. М. ЕЛЬЦЫНУ.

На фоне беспарадкаў і нягод
даўно відаць выразна дужа,
хто лёгка
аб"-
ягор-
вае
народ,
а хто яму нялёгка служыць.

Хлуснёю праўду назавуць адкрыта
і праўдаю хлусню, наадварот,—
шчыруе агрэсіўная эліта...
І ўсё ж відушчым робіцца народ.
Няхай не будзе кроў яго праліта.

●

Ці то калышуцца жыты,
ці спяць палі пад снегам,
зямля, я думаю аб тым,
што ты благаслаўлёна небам.

●

Так светла!
Так ціха!
Казалі, што шчасце канчаецца ліхам.
Няўжо абсалютнага шчасця няма?
Няўжо ў дарозе
чума?
Няўжо на парозе
чумы
святкуем так, цешымся
мы?

---

7 лістапада нашаму даўняму актыўнаму аўтару паэту Васілю Жуковічу спаўняецца 50 гадоў. Сёння, друкуючы новыя вершы юбіляра, «ЛіМ» жадае яму добрага здароўя і творчых поспехаў.

# Пра ятку Кудзякіна, гістарычныя «рэліквіі» і іншае

**Са старшынёй Сялянскага саюза Беларусі Канстанцінам ЯРМОЛЕНКАМ гутарыць журналіст Іван РУБІН**

**І. РУБІН: — У селяніна спракавечна жыве любоў і павага да зямлі і ніякімі дырэктывамі, забаронамі, пастановамі, ніякімі калектывізацыямі і ізмамі гэтага не вынішчыш. Хоць і спрабавалі, ды яшчэ як! Доўгі час селянін быў у сапраўдным прыгоне. А некалі ж бальшавікі тым і прывабілі селяніна, што паабяцалі яму даць зямлю... Праз шэсцьдзесят гадоў пасля калектывізацыі пытанне аб прыватызацыі зямлі паўстала зноў.**

К. ЯРМОЛЕНКА:—Вось канкрэтны прыклад. Хто жыве ў сталічным мікрараёне Паўднёвы Захад, не мог не заўважыць побач з універсамам своеасаблівую ятку, якая належыць Васілю Пятровічу Кудзякіну. Тут можна па дарозе дамоў купіць зяленіва — салату, кроп, пятрушку, моркву, іншую гародніну. Не, ён не нейкі гандляр ці перакупшчык. Звычайны гараджанін, жыве ў шматпавярховай блочнай «каробцы». А побач, на сямідзесяці сотках зямлі, якую ўзяў у арэнду ў калгаса імя Калініна, вырошчвае гародніну і прадае яе жыхарам мікрараёна. З гэтага і жыве. Дарэчы, у многіх краінах захаду ў прыгарадах вялікіх гарадоў вельмі распаўсюджана прафесія зяленшчыка. Кудзякін пакуль што адзін. А каб такіх людзей было ў тым жа Мінску некалькі тысяч? Думаецца, не трэба было б імчацца на Камароўку па розную дробязь.

Другі прыклад. Нядаўна быў у Жлобінскім раёне. Там сям'я Емяльянавых (гаспадар, жонка, сын) трымаюць недзе каля дваццаці кароў, маюць больш чым 60 гектараў зямлі. Разлічваюць мець 50 кароў. Чым не фермерская гаспадарка?

Неяк у гаворцы адзін селянін сказаў: «Трава даражаць не будзе». Сутнасць гэтай фразы ў тым, што карова была, ёсць і будзе карміцелькай пры любой уладзе. А калі чалавек будзе трымаць тры-чатыры каровы?

**— На парозе рынак. Многія яго чакаюць з пэўным страхам, разгубленасцю. А як на рыначныя адносіны ў эканоміцы рэагуе селянін? У які бок ён схіляецца, чаму аддае перавагу?**

— Дух селяніна разварушаны. Асабліва ў заходніх раёнах Беларусі, дзе любоў да зямлі, да сялянскай справы яшчэ не вынішчана да канца. Цяпер у рэспубліцы больш за сотню самастойных сялянскіх гаспадарак. А праведзеныя сацыялагічныя апытанні БелНДІ эканамічных праблем АПК паказалі, што ўжо цяпер 5 працэнтаў вяскоўцаў хоць сёння возьмуць зямлю. Гэта прыкладна 60 тысяч чалавек. У нас 2,5 тысяч калгасаў і саўгасаў. Значыць, у кожным з іх можам мець каля 10 фермерскіх гаспадарак.

Сёння мы атрымліваем дзесяткі пісьмаў з просьбай дапамагчы набыць уласную зямлю, тэхніку, будматэрыялы. Нядаўна быў адзін селянін з Брэсцкай вобласці, якога, відаць, так напалохалі мясцовыя начальнікі, што тут гэты чалавек гаварыў шэптам, азіраючыся па баках, каб, барані Божа, ніхто не даведаўся аб мэце яго прыезду ў сталіцу. «У нас дамагчыся свайго зямельнага надзелу немагчыма»,— сказаў ён, і гатоў быў, па яго словах, пераехаць у іншую вобласць рэспублікі, дзе можна завесці аднаасобную гаспадарку.

**— Так, ёсць яшчэ сілы, якія адкрыта выступаюць супраць, як яны называюць, новых кулакоў. Ёсць у нас свае нагульнавы і давыдавы, якія калгасы і саўгасы лічаць ледзь не вышэйшым дасягненнем цывілізацыі. Яны ў любую хвіліну гатовы ўзяць у рукі «казу» і з чырвоным бантам на грудзях ісці абразаць людзям соткі па самыя вуглы.**

— 30 сакавіка 1990 года Саўмін рэспублікі прыняў часовы парадак адводу зямлі для стварэння сялянскіх гаспадарак. Умовы яго — сапраўды прыгонныя. Селянін без дазволу агульнага сходу калгаснікаў ці дырэкцыі саўгаса не можа атрымаць надзелу зямлі. А як быць прыезджым, тым жа гараджанам? Мы распрацавалі альтэрнатыўны праект Закона аб зямлі, у якім прадугледжана права выхаду селяніна з калгаса, з атрыманнем зямельнага надзелу.

Сёння ж мы сутыкаемся са шматлікімі фактамі бюракратычнага, казённага стаўлення да заяў сялян аб выдзяленні ім зямлі. На жаль, у палоне старых уяўленняў аб перавазе калгасна-саўгаснага ладу знаходзяцца і многія мясцовыя Саветы, якія, можна сказаць, ідуць у ар'ергардзе партыйных органаў, палітыка якіх у гэтым пытанні вядомая.

Дарэчы, вельмі хваравіта рэагуюць на ўтварэнне сялянскіх гаспадарак людзі старэйшага ўзросту, асабліва тыя, хто у свой час арганізоўваў калгасы, раскулачваў з наганам у руцэ спраўных сялян.

Больш прыхільна ставіцца да карэнных рэформ у галіне сельскай гаспадаркі пакаленне 40-50-х гадоў, якое выйшла з часоў хрушчоўскай адлігі, каўтанула волі і пасмакавала хлеба «светлай будучыні» часоў брэжнеўскага застою.

І яшчэ. Можа, гэта мае асабістае меркаванне, але не пабаюся яго выказаць. Агульнавядома, што селянін а ні ў што не паверыць, пакуль, як кажуць, сам не «памацае». Тое самае і з утварэннем фермерскіх гаспадарак. Многія думаюць: а як яно яшчэ выйдзе, можа, цяпер зямлю дадуць, а пасля адбяруць, хіба ўладзе нашай можна верыць? Людзі не разумеюць, што ў калгасе і саўгасе, ва ўсякім разе ў большасці з іх, няма будучыні. Калі раней са слабых спісвалі даўгі, дык цяпер, з надыходам рынку, ніхто гэтага рабіць не будзе. Выжыве толькі моцны, з рэнтабельнасцю 35—40 працэнтаў. Што тады, скажыце, селяніну рабіць? Адным словам, логіка ў тых, хто трымаецца за «калектыўную» гаспадарку, такая: хай лепш зямля прападае, дзіравее, толькі б чалавек ёю не карыстаўся. Скажыце, прывядзіце мне хоць адзін прыклад, каб знішчымнела, абанкруцілася хоць адно сялянскае падвор'е? Хіба толькі там, дзе гаспадар байбак, латруга і п'яніца.

Нас «зверху» любяць павучаць, што для стварэння сялянскай, фермерскай гаспадаркі (маўляў, падлічылі навукоўцы) патрэбна 200-300 тысяч рублёў. На справе сялянскай гаспадарцы ў 30—40 гектараў патрэбен крэдыт у тысяч 70—80. На першы, як кажуць, абыходак. Каб чалавек абжыўся, купіў 15—20 кароў, трактар, неабходны інвентар.

Дарэчы, той жа Дзяржаграпрам рэспублікі штогод бухае ў сельскую гаспадарку больш за мільярд рублёў. Але на 5 працэнтах зямлі, на так званых «сотках», селянін атрымлівае трэць сельскагаспадарчай прадукцыі рэспублікі. Дык на чыю карысць факты?

**— Канстанцін Міхайлавіч, апошнім часам назойліва культывуецца афіцыйная думка, што потым сялянам усё роўна прыйдзецца аб'яднноўвацца. Такі працэс, маўляў, адбываецца на Захадзе. Адсюль робіцца вывад: ці варта траціць сродкі, сілы і час на арганізацыю фермерскай справы? Хай па-ранейшаму застаюцца калгасы, дадзім лепш ім больш сродкаў і свабоду дзейнасці. А яшчэ — ідуць спрэчкі аб памеры падзелаў...**

— Я асабіста супраць раптоўнага роспуску калгасаў. Але там, дзе яны трашчаць па ўсіх швах, выйсце адно — даць калгаснікам магчымасць працаваць на сваёй зямлі.

Цяпер наконт памераў зямельнага надзелу. У ідэале мне бачыцца асабістая гаспадарка ў межах 25—30 гектараў. Прыйдзе да таго фермера вопыт, стане яму цесна, можна будзе дазволіць прыдбаць яшчэ зямлі.

Кажуць, што ў ЗША ці той жа Канадзе ідзе працэс аб'яднання фермерскіх гаспадарак. Але ж не трэба блытаць аб'яднанне і каапераацыю. Сапраўды, там кааператываў больш, чым у нас калгасаў і саўгасаў. Фермеры сапраўды кааперуюцца. Гэта і сумесныя рамонтныя майстэрні, і пункты пракату тэхнікі, і страхавыя асацыяцыі, і зямельныя банкі. Будзе з цягам часу рабіць тое самае і наш свабодны селянін, які, спадзяёмся, накорміць краіну. Ну, накорміць — гэта мо і занадта, ва ўсякім разе ў бліжэйшы час, але што малако, мяса, бульба, гародніна, якія ён атрымае, будуць рэальнымі — гэта факт. Бо мы ж ведаем цану тысячам тон прадукцыі, якую быццам бы вырабляюць калгасы і саўгасы... Каб усё гэта было не толькі на паперы, мы б таго дэфіцыту прадуктаў харчавання не мелі.

Пра гэтую асаблівую арыфметыку хочацца сказаць колькі слоў. Што-што, а складаць справаздачы на пустым месцы у нас умеюць. Селянін малако прадае калгасу (гаворым — дзяржаве) за 27,5 капейкі. Той жа, у сваю чаргу, гэтае малако прадае ў два разы даражэй. Так і з мясам. Уявіце, што было б, каб селяніну за літр малака плацілі 50 капеек, а за кілаграм мяса 3—4 рублі? А цэны на іншую сельгаспрадукцыю? Сёлета ў нас у многіх месцах урадзілі яблыкі, а ў крамах — пуста. Бывае, завязуць малдаўскія ці польскія. Хіба разумны гаспадар будзе садзіць сад, не пабудаваўшы наперад сховішча, не займеўшы прылад для перапрацоўкі?

Або ўзяць тую ж гародніну. Адзін Мінскі раён мог бы забяспечыць ёю горад. Дайце толькі людзям зямлю. Гектар, два, тры...

**— Як сялянскі саюз ставіцца да арэнды, арандатараў?**

— Мне асабіста іх крыху шкада і... боязна. Па-першае, гэтыя людзі часта трапляюць у сапраўдную кабалу ці хітра пастаўленае сіло, бо не ведаюць бухгалтарскай і эканамічнай казуістыкі. А пры нашым трактаванні законаў у цяперашніх «народных» судах праўда, як звычайна, на баку моцнага.

Па-другое, нельга забываць, што *арандатар — часовы чалавек на зямлі*. Ён з яе высмакча ўсё, каб потым кінуць. Гаспадар жа ўласную зямельку будзе шанаваць і песціць, як дзіця. У яго кожны крок узважаны, каб, крый Бог, не нашкодзіць палетку.

**— У хоры праціўнікаў прыватызацыі зямлі гучаць пагрозлівыя папярэджанні: эксплуататараў разводзім, новых рабоў нараджаем, зноў з'явяцца батракі і паны...**

— А хіба калгас не эксплуататар? А хіба ўсемагутная таталітарная дзяржава — не самы вялікі ўзаконены памешчык? А хто той жа калгаснік? Бяспраўны парабак у самай «вольнай» краіне. Дык ці не хопіць? Семдзесят гадоў эксперыментаў над селянінам. Знішчэнне тых, хто хацеў і ўмеў працаваць. Знішчэнне духу сялянскага. Паміраюць тысячы «неперспектыўных» вёсачак, памірае стваральнік і носьбіт культуры нацыі, беларускасці. Скажу шчыра: хто не хоча і не ўмее рабіць і не любіць зямлю, той палохае эксплуатацыяй, рабствам. А нашы гістарычныя «рэліквіі» — бацькавы і матчыны сшыткі з крывымі палачкамі-працаднямі — гэта не эксплуатацыя, не рабства?

**— Але ж і пры фермерскім гаспадаранні прыйдзецца выкарыстоўваць наёмную працу.**

— Ну і што? Лепей за нішто працаваць на калгас-саўгас, чым за добры заробак на прыватніка?

Я аптыміст. Я глыбока перакананы, што сапраўды ўздымае вёску, вясковы дух, любоў да зямлі і ў рэшце рэшт усеагульны дабрабыт — прыватызацыя сельскай гаспадаркі. Іншага шляху няма.

лавека новай эпохі ў «Трэцім пакаленні», — ці не лепш прадставіць творчасць пісьменніка гуманістычнымі (хоць і не скончанымі) «Млечным шляхам» і «Пошукамі будучыні»? Або апраўдвацца, што жорсткі самасуд-забойства Ворчыка ў паэме «Сцяг брыгады» — выключная мера суровага ваеннага часу, у той час як глыбокі і сумна-чалавечны «Варшаўскі шлях» прапануецца толькі для самастойнага чытання, а найлепшы твор Куляшова — драматычная паэма «Хамуціус» — у праграме зусім не згадваецца. Як і многія іншыя імёны і творы. Ды і тлумачэнні настаўніка зазвычай пераконваюць значна меней, чым мастацкае слова. (Успомнім, да прыкладу, колькі тлумачылі «памылкі» Талстога і Дастаеўскага).

Дарэчы, пра тлумачэнні. Ніяк не магу пагадзіцца са Шкрабам, што Купала пісаў вершы, прысвечаныя Сталіну, «са шчырай душой». «Уяўляю, якая трагедыя была б для Купалы, калі б ён даведаўся, што самыя шчырыя парыванні свайго сэрца прысвяціў таму, каго гісторыя назаве катам усіх часоў і народаў», — піша Р. Шкраба. Выходзіць, трагедыі не было, Купала жыў у шчаслівым няведанні на той ніжэйшай ступені рабства, калі раб «са шчырай душой» услаўляе і абагаўляе свайго ката і ўладара? І гэта Купала, выхаваны ў вольналюбівых, дэмакратычных і гуманістычных традыцыях часоў першых рускіх рэвалюцый, у асяроддзі беларускай і рускай дэмакратычнай інтэлігенцыі? Купала, які арганічна не прымаючы ўсялякага ідалапаклонства, пісаў: «Не веру ідалам паганым... Бажкам не веру маляваным... У народ і ў край свой толькі веру, і веру ў самаго сябе». Купала, чый Гусляр прароча бачыць за княскімі шатамі «вісельні петляў», за яго заморскім віном — «слёзы нядолі сірочай», бачыць, што «кроў на золаце гэтым людская блішчыць», не разглядзеў кайданаў, крыві і слёз Беламор-канала, бо яму, маўляў, засцілі вочы пастаўленыя ў купэ скрынкі з каўбасой, віном, ікрой і шакаладам? І спасылкі на тое, што сталінізм не разгледзелі нават такія праніклівыя пісьменнікі, як Бернард Шоу, Анры Барбюс, Леон Фейхтвангер, мне здаецца, неапраўданыя. Замежныя пісьменнікі бачылі са свайго «цудоўнага далёка» тое, што ім хацелася бачыць як увасабленне сваіх ідэалаў, тое, што паказвала сталінская прапагандысцкая машына. Да іх не прыходзілі з вобыскамі нкусаўцы, іх не цягалі, як Купалу, на допыты, не цкавалі ў друку, яны не развітваліся з жыццём, даведзеныя, як Купала, да самагубства, у іх не арыштоўвалі, не расстрэльвалі, не гнаілі ў турмах і лагерах лепшых сяброў, як у Купалы... Так «пакаяннае» пісьмо і сталінскія вершы напісаны рукою зломленага паэта. І паэта трагічнага, таму што ён бачыў, ведаў і разумеў сутнасць сталіншчыны. Купала маўчаў, як маўчыць патухшы, але грозны вулкан, які можа загаварыць. І ў гэтым сталіністы бачылі небяспеку: інакш навошта і каму спатрэбілася смерць паэта (а думку аб яе невыпадковасці падзяляе і Р. Шкраба).

Мне здаецца не надта этычным і сам метад вядзення палемікі: замест спрэчкі па сутнасці Р. Шкраба часта, што называецца, «пераходзіць на асобы» — здзекліва выказваецца пра паэтычную творчасць апанента, прычым не прыводзячы ніводнай цытаты ці разбору верша (заадно дастаецца і У. Някляеву, які напісаў прадмову да першай кніжкі А. Бадака). Тут не час і не месца аналізаваць паэзію Бадака, але калі б нават ён быў і слабым паэтам, то хіба права на ўласную думку маюць адно лаўрэаты?

Вядома, у газетнай нататцы цяжка быць грунтоўным і аналітычным (сам жанр абавязваў яе аўтара да сціслай і завостранай пастаноўкі праблемы), і Р. Шкрабу няма нічога лягчэй, як у часопісным артыкуле памерам з паўтара аркуша (!) папракнуць апанента ў легкаважнай манеры — «галопам па Еўропах». Ёсць у А. Бадака і фактычныя недакладнасці, і паэтычныя выдаткі «сацыялагізму наадварот» — калі ён спрабуе ўбачыць палітычную афарбоўку ў лірычным вершы П. Броўкі «Пахне чабор»... Аднак асноўная «віна» А. Бадака, мне здаецца, у тым, што ён працытаваў асобныя мясціны з падручнікаў Р. Шкрабы. Прычым без таго знішчальнага каментарыя, якім у артыкуле літаратуразнаўца суправаджаецца кожнае слова апанента. Але цытаты гавораць самі за сябе. Дарэчы, з гэтага не вынікае, што А. Бадак негатыўна ставіцца да падручнікаў Р. Шкрабы ў цэлым. Яны няблага служаць педагогіцы ўжо другое дзесяцігоддзе. Я таксама працавала па іх, і, як многія настаўнікі, магу сказаць шмат добрых слоў — яны вылучаліся нетрафарэтнай падачай матэрыялу, эстэтычным густам, жывой, вобразнай мовай, асабліва ў параўнанні са сваімі засушана - сацыялагізаванымі папярэднікамі. Але ж — «быў час, быў век, была эпоха», якая дыктавала і забараняла, былі праграмы, ад якіх аўтар не мог адступіць. І ніхто не заклікае аўтара да «пакаяння», наадварот, вялікі дзякуй яму, што і ў тых умовах ён зрабіў усё магчымае.

Але сёння слушна і карысна было б, каб сам аўтар абноўленым позіркам зірнуў на свае падручнікі з вышыні багатага педагагічнага і літаратуразнаўчага вопыту параў, у якім кірунку павінны ісці змены і абнаўленне. Гэтага ў артыкуле амаль няма: яго пазіцыя непрымірыма-абарончая.

Мне здаецца, асноўная памылка ў тым, што Р. Шкраба ў вывучэнні літаратуры ў школе імкнецца спалучыць неспалучальнае — агульначалавечыя гуманістычныя каштоўнасці з прынцыпамі класавасці і партыйнасці, якія дыяметральна процілеглыя ў разуменні свету і чалавека. Гэта тое самае, што імкненне аб'яднаць рынкавую эканоміку з камандна-бюракратычнай сістэмай.

«Я не ведаю, што такое безыдэйны лейбарыст або безыдэйны камуніст», — піша Р. Шкраба. — Так, партыі былі, ёсць і, відаць, будуць, а значыць, і партыйны друк, тэндэнцыйная літаратура... Але ж у англійскіх школах дзеці, да прыкладу, не дэкламуюць: «Хутка будуць называцца, веру ў гэта, лейбарыстамі ўсе людзі на зямлі», як гэта ў адносінах да камуністаў дэкламуюць вучні беларускіх школ. У нармальнай школе дзецям прывіваюцца агульначалавечыя маральныя, гуманістычныя каштоўнасці, а потым дарослы і гуманны чалавек свабодна і самастойна выбірае прыналежнасць да пэўнай партыі, ідэалогіі, або застаецца беспартыйным.

А якая можа быць свабода выбару, калі партыйна-класавыя лозунгі ўбіваюцца ў галовы дзяцей з ясельнага ўзросту? Гэта тое самае, што рабіць аперацыю на мозгу чалавека без яго ведама і згоды. «Хто, па якому праву хоча адабраць у Куляшова вынашаныя ў сэрцы словы: «Я хачу, каб называўся камуністам родны сын мой, а таксама сынаў сын?» — пафасна ўсклікае Р. Шкраба. Зноў жа — ніхто не адбірае, няхай верш «Камуністы» застаецца ў Зборы твораў (хоць, думаю, сам Куляшоў зняў бы яго цяпер, калі адкрылася столькі праўды пра дэфармацыі ў партыі). Верш напісаны на «выпадак» — у 1948 годзе, да стагоддзя з дня выхаду ў свет Маніфеста Камуністычнай партыі, у ім шмат адцягненай рыторыкі, рыфмаваных лозунгаў. Напрыклад, так выглядае ў вершы тэзіс «Пралетарыят — магільшчык буржуазіі».

**Сто гадоў таму назад было нас мала,**
**Сто гадоў назад мы выйшлі на вайну,**
**Сто гадоў мы рыем дол для капітала,**
**Для хаўтур яго збіваем мы труну.**

Дазвольце і мне пафасна ўсклікнуць: хто, па якому праву прымушае дзяцей дэкламаваць гэтую антыгуманную рыторку?! Не ведаю, як Р. Шкраба, а я, напрыклад, не хачу, каб мой сын, а потым сынаў сын яшчэ сто год «рылі дол для капітала». Хопіць, нарыліся, такі «катлаван» выкапалі, што і выбрацца з яго без дапамогі таго ж «капітала», бадай, не зможам.

Найперш з гэтага «долу», «катлавана» патрэбна вызваліць нашых дзяцей. А значыць, патрэбна вызваліць педагогіку, і як найхутчэй. На маю думку, пры складанні новых праграм і напісанні падручнікаў па літаратуры ў школе павінны быць два асноўныя прынцыпы, вельмі простыя па сутнасці.

У школе вывучаецца Літаратура, а не белетрызаваны ці рыфмаваны дадатак да «Кароткага курсу гісторыі ВКП (б)» (як гэта ў асноўным ёсць зараз).

Літаратура выкладаецца як Літаратура — па спрадвечных, агульначалавечых крытэрыях праўды, дабрыні і хараства.

---

Прафесар Фрыдрых Шольц з Мюнстарскага універсітэта ФРГ даслаў ліст, у якім вітае пачатак добрай справы і выказвае надзею ў будучым накіраваць для вучобы ў Беларусь сваіх студэнтаў. Слушныя прапановы даслалі вучоныя-славісты Ханс Ротэ з Бона, Ульрых Обст з Кёльна, Марцін Наг з Нарвегіі, Андэрс Сіберг са Швецыі. Свае прапановы, пажаданні, рэкамендацыі выказалі ў лістах таксама вучоныя з Даніі, Канады, Нідэрландаў, Нарвегіі, Швецыі, ФРГ, Фінляндыі, Югаславіі.

Такім чынам, адкрыццё ў Мінску летняй школы славістаў — справа неабходная, надзённая. Ідэя даўно патрабавала рэальнага ажыццяўлення.

Як вядома, практыка арганізацыі і правядзення летніх школ славянскіх моў распаўсюджана і вядома ва ўсім свеце. У Балгарыі іх дзве (у Сафіі і В. Тырнаве), у Чэхаславакіі — 4 (Прага, Брно, Аламоуц, Браціслава), у СФРЮ — 4 (два семінары сербска-харвацкай мовы — у Бялградзе і Заграбе, славенскай мовы, літаратуры і культуры ў Любляне і македонскай мовы ў Скоп'е). У СССР адкрыты Міжнародны семінар рускай мовы (г. Масква). Толькі два славянскія народы да апошняга часу не мелі міжнароднага семінара сваіх моў — беларускі і украінскі.

*Такія семінары — справа гонару і прэстыжу дзяржаў*, рэспублік, у якіх яны адкрываюцца, яны цалкам фінансуюцца дзяржавамі, аб іх праяўляецца пастаянны клопат, імі ганарацца, друк, радыё, тэлебачанне пастаянна надаюць ім увагу. Варта таксама ўлічваць, што шэраг месц у семінары будзе аддадзены саюзным рэспублікам, тым, хто пажадае прыехаць для ўдзелу ў вучобе з розных куткоў нашай краіны, што будзе садзейнічаць развіццю і ўкараненню беларускай мовы ў асяроддзі беларусаў і выхадцаў з Беларусі, іх умацаванню трывалых сувязяў з бацькаўшчынай.

Галоўная мэта летняй школы бачыцца ў прапагандзе нацыянальнай мовы, духоўнай культуры, традыцый. Канчатковым вынікам яе дзейнасці павінна стаць падрыхтоўка навуковых кадраў, вучоных-славістаў, якія ўключаюць беларускую мову, літаратуру і культуру ў сферу сваіх навуковых інтарэсаў, стварэнне ў свеце, асабліва па-за межамі Беларусі, навуковых школ па беларусазнаўстве.

Вялікае значэнне мае школа для падрыхтоўкі і выхавання кваліфікаваных кадраў перакладчыкаў з беларускай мовы на іншыя мовы народаў свету. Асаблівае месца ў рабоце павінна заняць прапаганда дасягненняў беларускай літаратуры і культуры, распаўсюджанне і пашырэнне беларускага мастацкага слова, нацыянальных традыцый у краіне і за рубяжом.

Практыка існавання летніх школ у іншых краінах паказвае, што па цэлым шэрагу акалічнасцей яны працуюць найбольш плённа на базе універсітэтаў. У сувязі з гэтым Белдзяржуніверсітэт імя У. І. Леніна гатовы ўзяць на сябе функцыі заснавальніка і несці асноўныя фінансавыя затраты, але для адкрыцця і працы школы неабходна дапамога ўрада рэспублікі, а таксама іншых зацікаўленых арганізацый (СП БССР, Беларускага фонду культуры, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны, АН БССР, Таварыства «Радзіма», згуртавання «Бацькаўшчына», Беларускага таварыства культурных сувязей з заграніцай, Міжнароднай Асацыяцыі навукоўцаў-беларусістаў свету, а таксама, па магчымасці, арганізацый-спонсараў ці фундатараў.

*Дзеля таго, каб адкрыць летнюю школу, неабходна паклапаціцца* аб падрыхтоўцы спецыяльных падручнікаў, граматычных зборнікаў беларускай мовы (на аснове рускай і англійскай моў), выдаць зборнікі тэкстаў для чытання, падрыхтаваць зборнікі практыкаванняў і тэкстаў, напісаць падручнікі па краіназнаўстве, кнігі лінгвістычнага і азнаямляльна-краязнаўчага характару. Варта стварыць і выдаць спеўнік беларускіх народных песень (ці паасобныя лісты да яго). Наспявае патрэба ў падрыхтоўцы і выданні рэкламна-экскурсійнай літаратуры, праспектаў, буклетаў, карт, календароў, паштовак, магнітафонных запісаў беларускага фальклору, урыўкаў з драматычных твораў.

Удзельнікі школы атрымаюць пасля яе заканчэння пасведчанне аб аб'ёме праслуханых курсаў. *Для іх можна прапанаваць* цікавую і разнастайную культурную праграму, арганізаваць «круглыя сталы», дыскусіі, сустрэчы.

*Міністэрства народнай адукацыі* падтрымала ініцыятыву БДУ і СП БССР аб адкрыцці летняй школы беларусістыкі. Рашэнне аб адкрыцці яе ўвайшло ў «Дзяржаўную праграму развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у Беларускай ССР». Але зроблены пакуль што толькі першыя крокі.

Пачаўся новы навучальны год у ВНУ. Добра было б паклапаціцца зараз аб тым, каб даць шырокі розгалас школе, забяспечыць яе стварэнне шырокай рэкламай, каб прыцягнуць як мага болей жадаючых прыняць удзел у ёй у нашай краіне і за яе межамі.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ,**
**дацэнт БДУ, старшыня падрыхтоўчай групы па ўтварэнні летняй школы беларусістыкі.**

## Кнігапіс

М. ШЫМАНСКІ. Тры бярозкі ля агню. Нарысы. На рускай мове. М., «Известия», 1989.

**Міхаіл Шыманскі з 1970 года працуе ўласным карэспандэнтам газеты «Известия» па Беларусі. За гэты час у яго выйшла больш за дзесяць кніг нарысаў і публіцыстыкі як у рэспубліканскіх выдавецтвах, так і ў Маскве. Чарговы зборнік — таксама вынік журналісцкіх паездак аўтара. Гэта аповяд пра людзей, якія і ў гады вайны, і ў мірны час прывабліваюць сваёй шчырасцю, высакародствам.**

Я. ЮХО. За вольнасць нашу і вашу. Мінск, «Навука і тэхніка», 1990.

**Адна з чарговых кніг у серыі «Нашы славутыя землякі» расказвае пра вядомага нашага земляка, выдатнага палітычнага і ваеннага дзеяча Рэчы Паспалітай Тадэвуша Касцюшку, які з'яўляўся кіраўніком паўстання 1794 года, удзельнічаў у вайне паўночна-амерыканскіх калоній супраць англійскага панавання. Як і папярэднія выданні, нарыс багата ілюстраваны.**

А. МАРЦІНОВІЧ. Груша на Голым Полі. Раман. Пераклад з рускай. М., «Советский писатель», 1990.

**З вядомым раманам Аркадзя Марціновіча «Груша на Голым Полі» ўсесаюзны чытач пазнаёміцца ў аўтарызаваным перакладзе Эдуарда Карпачова. Твор — яшчэ адна старонка ў мастацкі летапіс барацьбы з фашызмам, расказ пра мужнасць і гераізм савецкіх людзей.**

Д. ЯНЧАР. Галернік. Раман. Пераклад са славенскай. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1990.

**У рамане «Галернік» сучаснага славенскага пісьменніка Драгі Янчара паказана жыццё славенскага народа ў XVII стагоддзі. Пераклаў твор на беларускую мову і напісаў прадмову «Лёс — галера ў моры гісторыі» Іван Чарота.**

**Віктар ШНІП**



# БАЛАДНЫ МАНАЛОГ ВОЛЬНАГА БЕЛАРУСА

●

Я на касцях сваіх трымаю хлеў,
Дзе парсюкі карытамі ўладараць.
Наш белы Храм амаль увесь счарнеў
І кружыцца над ім воранаў хмара.
Гляджу на вас і бачу ў вас рабоў.
А вы давольныя жыццём, сабою
Не бачыце іржавых ланцугоў
На шыях, упрыгожаных гразёю.
Я вольным быў на вольнае зямлі
І гаварыў на роднай мове з Богам.
У белы Храм дарогі ўсе вялі.
У хлеў смярдзючы вашая дарога.
Не для таго я нёс цяжкі свой крыж, -
Каб вы яго, бяздумныя, спалілі,
Каб жыў чужак у Храме і, як мыш,
Усё псаваў, а вы яго б хвалілі.
Я на касцях сваіх трымаю хлеў,
І вам трымаць, нявольнікам, карыта.
Вам стаўся гімнам рабскі і нудотны спеў,
Вы з ім прыйшлі на чорны край нябытку.
Яшчэ ёсць сілы і яшчэ ёсць час
Сваю спазнаць у белым Храме долю.
І толькі воля выратуе вас,
І толькі варта паміраць за волю.

## Балада вандроўніка

У цемры кашлатай прыгожыя ведзьмы
Сядзяць, як манашкі, наўкола кастра.
Як чорт, я стаміўся, мне холадна вельмі,
Савою галодною лётае страх.
У чорнай пасудзіне варацца зёлкі,
Іх ведзьмы каштуюць і хваляць сябе.
І вецер ля іх, як жаніх невясёлы,
Траву пад сабою нервова скубе.
Але не звяртаюць увагі на вецер
Прыстойныя ведзьмы жахлівай красы.
Якіх жаніхоў яны бачылі ў свеце!
Ды дзе жаніхі? Адрыпелі вазы, —
На іх жаніхоў на клады перавезлі.
Ды скача касцёр, як наіўны юнак,
Якому цукерку з атрутай прынеслі,
І верыць забойцам да смерці, дзівак.
І скача касцёр, бо даюць яму есці,
І ведзьмам ён верыць і сам, як вядзьмак.
А я, нібы мёртвы, стаю за кустамі.
Пра стому забыўся, пра холад, пра страх,
Бо ўбачыў, што ведзьмы ў хаўрусе з людзямі.
З людзямі, якія з крывёй на руках.
І толькі хацеў я схавацца ў цямнечы,
І толькі крыху павярнуў галаву,
Як ведзьмы мне селі на кволыя плечы,
Як слуп, павалілі мяне на траву.
І сталі душыць, як сабаку-вар'ята.
І я загарланіў: — Ратуйце, браты!
Ды голас пачуў: — Ты ратунку не варты!
І я закрычаў: — Дык ратуйте тады
Айчыну маю ад нячыстай навалы!
І хлынула горлам басяцкая кроў.
І сонца над лесам ахвярна устала,
Вялікае сонца, як наша любоў,
Любоў да Айчыны, да праўды, да волі...
...Што гэта за цені на травах ляжаць?
То ведзьмы ляцелі высока над полем,
Да Бога мая адлятала душа.

*Пятро Васючэнка*



# Канчурык робіць Выбар

*апавяданне*

КАНЧУРЫК якраз збіраўся прылашчыць жонку, як у іх было заведзена, а палове першай ночы, ажно ў кватэру пазванілі, тады загрукалі ў дзверы кулакамі, абцасамі.

— Ці тут жыве Канчурык?— пачуўся казённы голас.— Зараз жа на выбары.

Канчурыку падалося, што ён скручваецца, бы чарвяк, у абаранак, а над ім — аграмадны, падкаваны жалезам бот.

— Ужо ж былі выбары... Па нашай акрузе... У сакавіку... — гэта казаў не Канчурык. Гэта азваўся ў ім агідны чарвяковы голас.

— Нас не акруга цікавіць. Нам патрэбны Вы,— казённы голас быў няўмольны.— Адчыняйце.

Канчурык мусіў адамкнуць. А там стаялі двое шэрых, другі з наганам. З іх добра было б маляваць ілюстрацыю да кніжкі пра трыццатыя. А першы, Казённы Голас, яшчэ кінуў, бы з тае кніжкі, сказ:

— Пойдзеце з намі.

— Куды ён пойдзе?! Не пушчу!— гэта жонка загаласіла.

— Ён пойдзе. Інакш панясуць,— запэўніў Казённы Голас.

Канчурык стаў нацягваць порткі, ды, ведама ж, нязграбна, бы на чужыя ногі. Ён, ясна, чытаў у тоўстых часопісах, бачыў у фільмах, як такое адбываецца з чалавекам; здаралася, з салодкім жахам думаў: «а як і са мною?» Але адна рэч — думаць, іншая — самому адчуць, як цябе падхапіла і кудысьці цягне грубая сіла. У цябе без цырымоніяў адабралі адчуванне свайго «я»; свайго ў цябе няма анічагуткі, а гэтыя рукі, ногі, галава, скура, цёплая кроў —чужыя; а яны, уладары твае істоты, што захочуць, тое і зробяць з усім гэтым. Утульная кватэра, жонка пад бокам, тэлевізар ды газета з футбольнымі навінамі — у былым, а сапраўднасць — гэта двое шэрых, адзін поруч, другі, з наганам, — ззаду.

Чалавека ахоплівае ноч — ноч з усіх бакоў, знізу, дзе ногі ўжо нібыта не чуюць зямлі, зверху, дзе зеленаваты нежывы ветах. Асаблівая ноч — калі душаць жанчын або вешаюцца самі, катуюць у скляпеннях чалавечыя целы, збіваючы іх гумовымі дручкамі ды абліваючы вадой, прыдумляюць геніяльныя планы шчасця для чалавецтва...

Але Канчурык на тое быў Канчурык, каб хуценька звыкнуцца і з шэрымі, і з непрагляднай цямрэчай. У ім пачало смылець мацнейшае за страх пачуццё—віны. Ён ужо са скрухаю перапрэсваў сваё мінулае, згадваў грахі. Як ішоў міма пляцу, дзе мітынгаваў натоўп, крычалі «Далоў», а ён азірнуўся, прыслухаўся ды, можа, таксама нештачка крыкнуў... ясна, не ўголас. Ці вось гэтая адозва, якую ён гэтак неабачліва падпісаў. Здавалася б, што такога, усе штосьці падпісваюць, але... Прадчуваў жа тады, што добрым не скончыцца. Што не можа так быць, каб гэта вечна цягнулася— мітынгі, адозвы, крыкі «Далоў», і каб нехта гэта трываў, не караючы вінаватых. А вінаваты — гэта перадусім той, хто жыве з балючым, вечна вінаватым сумленнем, хай сабе ён і нічога ніякага.

Цяпер Канчурык забедаваў, што вось, дзеля яго казённы чалавек ступіў у калюжыну ды праваліўся па самае калена. У сваёй віне Канчурык не сумняваўся, хаця злачынства свайго не ведаў. Каб ведаў, мо яму й лягчэй было б са сваім сумленнем, прынамсі, ужо весялей ад таго, што нездарма казённы чалавек пацягнуўся за ім уначы ды праваліўся ў калюжыну.

Выйшлі на вуліцу Стаханаўцаў, што ўпіралася ў будыніну, якая адна, здавалася, з усяго месца жыла бадзёрым жыццём. Яна каўтала або выплёўвала людзей — раз-пораз у ейным простакутным роце паказвалася чыянебудзь постаць. Канчурык пазнаў будыніну: даўней тут памяшчаўся нейкі санітарны адстойнік. І ён, Канчурык, калісьці прыплёўся сюды па даведку, што не носіць на сабе гнідаў, блышчыцаў, карослівых кляшчоў ці іншых якіх цудаў прыроды (ён пасяляўся ў інтэрнат). Яму загадалі скінуць нагавіцы, абгледзелі жывот, зазірнулі ў галаву — і разам з даведкаю аб сваёй чыстасці ён вынес вельмі прыкрае адчуванне, быццам дакрануўся да чагось агіднага, надта прымітыўнага. Нядаўна будыніну пабялілі, надбудавалі ганак—няйначай, рыхтавалі для новага прызначэння.

Дзверы пракаўтнулі яго гэтак жа проста, што й астатніх. Унутры, здаецца, памянялася менш, чым звонку. Нават пахі плавалі ранейшыя, ад якіх вярнула на ваніты. На пажоўклых плакатах — знаёмыя выявы: вёрткая вош прабіраецца паміж кучаравых валасоў; вялізны пацук весела цягне мех, наладаваны халернымі вібрыёнамі. Ды побач з павучальнымі малюнкамі з'явілася й нешта новае: вялізны аркуш з загалоўкам «Камісія па выбарах», з доўгім спісам прозвішчаў; крывавай фарбаю па белым — лозунг: «Рабі свой выбар, таварыш!», а пад ім партрэт незнаёмага, з-пад вусоў— шчаслівая ўсмешка, няйначай, намаляваны таварыш свой выбар ужо зрабіў. Аднекуль з-за дзвярэй чуваць была п'яная гамана, нехта радасна абяцаў: «Хай толькі вякне — стаўку ў парашок!» Яшчэ былі гукі, ад якіх Канчурык сцепануўся, — прыглушана ляскалі стрэлы, няйнакш, у лёхах пад будынінаю.

Канчурыка пасадзілі на драўляную лаву, загадалі чакаць, але доўга ён не ўседзеў —папрасіўся ў прыбіральню. Шэрыя пайшлі з ім, пасталі каля драўлянай перагародкі, чакалі. Канчурыка засмуцілі «фрэскі» на тынкоўцы — невядомы мастак ад хваравітага розуму ці ад тугі накрэсліў гіганцкія выявы жаночых ды мужчынскіх палавых органаў.

Потым яго, засмучонага, вялі праз доўгі калідор, аж пакуль не расчыніліся дзверы з шыльдаю «Буфет», адтуль вылез хтось медзведзяваты, паручкаўся з Казённым Голасам ды загаманіў пра рыбалку. А Канчурык краем вока падгледзеў, што тварыласяў буфеце. Даволі ладная кумпань сядзела ля ссунутых сталоў, рагатала, і ў шэрай, шчыльнай грамадзе цяжка было разгледзець хаця б адзін выразны твар—усё плыло, бы ў тумане. Адзін, змрочны, сядзеў асобна, трымаў у правай руцэ куфаль з півам, у левай — тарана, якога жаваў разам з луской, косткамі й кішкамі, а выгляд меў гэтакі пануры, быццам учора зарэзаў роднага брата. У куце дзве кабеты біліся з-за бляшанак з сардзінамі — дзёрлі адна на другой валасы, пляваліся, цаляючы ў рот адна адной. Адрузлая кабеціна рассыпала на падлозе з дзесятак аранжыкаў і марна спрабавала іх сабраць — падыме адзін, а другі выслізне з-пад локця...

Тут жа праяснілася й таямніца «стрэлаў» — нехта самавіты, з гарбузападобным перадам, адкаркоўваў адну за адной бутэлькі шампанскага, цаляючы коркамі ў лысіны й патыліцы прысутных. На яго ніхто не крыўдаваў, усе міла ўсміхаліся яму — відаць, ганаровы быў таварыш.

Канчурыка пацягнулі далей, да дзвярэй з шыльдаю «Агітатар № 9».

Што магло быць за дзвярыма? Краты, дубовы стол, дубовая постаць следчага, акрываўлены тапчан, дзецюкі з гумовымі дручкамі? Біцця Канчурык не вытрымаў бы, ён гэта ведаў, адразу прызнаўся б ва ўсім, чаго нават не рабіў.

Стол быў звычайны, з клею ды пілавіння. «Агітатар № 9» постаць меў нястрашную, злёгку прыгорбленую, нагадваў старшыню прафкаму ў час прыёму па жыллёвым пытанні. Тапчана не было — быў яшчэ адзін стол з раскладзенымі на ім скручанымі паперкамі. У пакоі маўчалі — але тое маўчанне не было цішынёй. Наадварот — пакой напоўнены быў гукамі, што чуліся як скрозь ватнюю коўдру: варушылася, пакрэхтвала, мычэла штось, быццам загнаная ў хлеў жывёліна.

Той, за сталом— Дзевяты—гартаў папку, дзе — Канчурык у тым не сумняваўся — памяшчаўся яшчэ адзін, папяровы Канчурык, з апісаннем аблічча, фізічных параметраў, хваробаў, грахоў перад грамадствам. Канчурык ведаў, што ёсць такія папкі, толькі іначай уяўляў сабе людзей, што гартаюць іх. А гэты, Дзевяты, быў проста стомленым, спакутаваным ад няўдзячнае свае працы чыноўнікам. З балеснаю мінаю ўзіраўся ён у Канчурыка: яшчэ адзін на маю галаву. Каб разагнаць тугу, пакалупаўся ў носе, а тады праказаў да Канчурыка сумнасумна:

— Ну вось, бачыце. Раней бы Вам спахапіцца, а цяпер давядзецца выбіраць.

Паказаў рукой на стол з паперкамі. Канчурык разгубіўся, але яго падапхнулі ззаду наганам, і тады ён сцяміў: трэба ўзяць адну з паперак, разгарнуць.

На паперы было: «Маці. Або жонка». Дзевяты таксама зазірнуў у паперку і крыху павесялеў:

— Ну, дык гэта не самы цяжкі выбар, ёсць і страшнейшыя. Але што ж Вы стаіцё? Бярыце аловак, выкрэслівайце непатрэбнае.

Канчурык сіліўся ўцяміць, чаго ад яго хочуць, але праўда ўваходзіла ў ягоны розум па частках. Спярша сэнс гэтага слова: «непатрэбнае». Ці ж можа быць «непатрэбным» маці ці жонка, нават калі гэта словы на паперчыне? Ясна, з яго чыніўся здзек. Мажліва, ён гэта заслужыў, бо ж — вінаваты, але гэта чысты здзек —прымушаць выкрэсліваць такія словы. Выкрэсліваць — усё адно што забіць, у гэтым сэнс катавання... Жонку ніяк нельга выкрэсліваць, раптам стрэльнула яму ў голаў. Тут жа ён спахапіўся: а каго можна? Як не жонку, дык значыцца... ён ужо й выбраў? Тут яму паліўся ў вушы ціхі, лагодны, бы старая песня, голас: «Не бяры да галавы, сыночак. Што з імі паробіш, з ідаламі, зрабі, што яны хочуць. Вы ж маладыя, вам яшчэ дзетак гадаваць. А мне, як бацька памёр, неінцярэсна на гэтым свеце. Хачу ўмерці». Каб гэта быў не голас, а жывая маці казала яму, дык ён пачаў бы з ёю спрачацца, аднекваўца, хаця б і ведаў, што выбару не ўнікнуць. А з голасам дык і спрачацца не было як, бо ён жа ў ім, у Канчурыку, азваўся, гэты голас, то як было схаваць перад ім таемныя свае думкі? А спакою яму ўжо ніколі не будзе, не глядзець яму з гэткім смакам футбол, як бывала, не бачыць добрых сноў. Выйсця не было.

Яны чакалі. Трэ было нешта казаць, дык ён выціснуў з сябе:

— Тут нейкае непаразуменне...

— Чаму гэта непаразуменне? — пакрыўдзіўся Дзевяты. — Непаразуменне — гэта там, у вас. Вы хацелі сказаць, што паміж імі выбіраць нельга. Так? Вы аднолькава любіце й Вашую маму, і жоначку? Паверым. Хаця аднолькавага нічога ў свеце няма. Нечага трошкі больш, нечага меней. Гэта ўжо й выбар. А Вы... Вось вы з жонкаю ў горадзе, а матуля Вашая ў вёсачцы. Вы да яе раней надта любілі ездзіць, кумпячка прывезці, маладой бульбачкі. Цяпер не дужа возіце — радыяцыя там крышку падскочыла. То чаму ж Вам не забраць да сябе старэнькую, ад радыяцыі? Не пагодзіцца — угаварыць? Але чамусьці не везяцё — а гэта ўжо выбар. А каб і прывезлі, дык і ў горадзе Вам давялося б выбіраць паміж жонкаю і

*На скрыжаванні думак*

# БЕЛАРУСКІ САЛАВЕЙ У «ПС»

І пайшло-паехала: «...о приездах Забейды-Сумицкого в оккупированный фашистами Минск в 1942 и 1943 годах... да и в другие города... с концертами...», якія наведвалі, маўляў, «...в основном только прислужники оккупантов и члены их семей...» «...По приглашению руководства «Беларускай самапомачы» в Минске участвовал в празднике «Дажынкі», разыгранном оккупантами... Объезжает Западную Белоруссию и Германию... Выступает в Берлине на литературном вечере поэтессы Натальи Арсеньевой... дал 8 концертов в Латвии... слушатели: праздная публика в штатском и немецкие офицеры». І г. д.

Асаблівай аўтарскай (проста пракурорскай) узнёсласцю адзначаюцца «выкрывальныя» сведчанні пра ўваходжанне Забэйды-Суміцкага ва «ўрад «Беларускага камітэта самапомачы» в Праге...», пра прысутнасць спевака на двух важных сходах «Камітэта»; у якасці «доказаў» у публікацыі прадстаўлены два машынапісныя фотадакументы падазронай вартасці. Апагей абвінавалаўкі — факт таго, як «...в ноябре 1944 года... М. Забейда-Сумицкий участвует в совещании группы «представителей белорусской интеллигенции в Праге», дзе «обсуждался вопрос о создании в Европе белорусской национальной армии для оказания помощи гитлеровской Германии в продолжении войны против СССР...»

Вось які, аказваецца, Беларускі Салавей,— не толькі спяваў для немцаў і іх памагатых, але (паводле Корзуна) «преуспел» і ў палітычнай антысавецкай дзейнасці, вышэй за самую БЦР скокнуў, у самога яе прэзідэнта Радаслава Астроўскага хлеб надзённы адбіваў...

Абсурдней за гэткі кампрамат не прыдумае і геній.

Ды мала таго. Аўтар «ПС» выцягвае з аналаў айчыннай гісторыі нядобрай памяці белагвардзейшчыну часоў грамадзянскай вайны, эмігрантаў, якія быццам бы «сражались с напавшим на их Родину врагом...» Тут бы дарэчы ўспомніць, дакладней,—на чыім баку і з кім «сражались» у гады Айчыннай вайны казацкія фарміраванні генералаў Краснова і Шкуро, гэтаксама і войскі «доблестной РОА» пад камандаваннем былых савецкіх генералаў і афіцэраў?! Але далейшая паралель яшчэ цікавейшая,— «...когда даже генерал Деникин отказался от сотрудничества с врагом Отечества...» Аднаго з галоўнейшых ворагаў Савецкай улады перыяду яе станаўлення, які на працягу 1918—20 гадоў з дапамогай белагвардзейскіх штыкоў вялікай народнай крывёю заліваў шырокія прасцягі рэвалюцыйнай Расіі, Корзун згадвае ў якасці... станоўчага прыкладу.

Вось, здаецца, збольшага ўсе выказаныя ў артыкуле прэтэнзіі да Забэйды-Суміцкага, які амаль дзевяць гадоў ужо нябожчык і не ў стане бараніцца ад зласліўцаў. Мне, ягонаму ўважліваму слухачу памятнай вясны 1963 г. (гастролі ў Беларусі), якому пазней вельмі пашанцавала мець сталае ліставанне са славутым спеваком на працягу 17 гадоў, аж да самай яго смерці, не да твару было б змоўчаць, пакінуць па-за ўвагай адзіную ў айчынным друку ачарняльную публікацыю ў «Политическом собеседнике».

Шчыра сказаць, няўжо я, сталы чалавек, павінен верыць аўтару відавочна нячыстай з этычнага боку публікацыі, які асабіста ніколі не бачыў, не чуў Забэйду-Суміцкага, не меў з ім кантактаў, а ўзяўся самахоць з дапамогай папер сумніцельнага паходжання вызначаць месца спевака ў нашай культуры, судзіць ягоны лёс? Чаму ў артыкуле праігнараваныя праўдзівыя і каштоўныя сведчанні многіх выдатных дзеячаў беларускай культуры, пісьменнікаў — Р. Шырмы, М. Танка, З. Верас, Л. Геніюш, Я. Брыля, С. Грахоўскага, У. Калесніка, С. Панізніка і інш., гэтаксама і ўспаміны самога спевака?

МЕТОДЫКА, згодна з якой напісаны Корзунаў артыкул, мае свае даўнія, яшчэ ад часоў сталіншчыны, глыбокія пачварныя карані. Планамерна-навязлівая, груба-прымітыўная сваім нагрувашчваннем фактаў сумніцельнай верагоднасці і адпаведных аналогій, яна (методыка) скіраваная на тое, каб узняць абвінаваўчую планку да недасягальнай вышыні, каб зрабіць і зусім невінаватага, і вінаватага ў нечым малаістотным злачынцам высокага рангу. Абвінавачванне ў службе на карысць нямецка-фашысцкіх акупантаў — гэткі бяспройгрышны канёк колішняга афіцыёзу і «иже с ними». З яго дапамогай і вялікі талент, якім ганарыцца нацыя, можна перавярнуць у нішто. Дзеля аналогіі не лішне будзе ўспомніць і даваенных, тыпу Бэндэ, «спецыялістаў» па ганьбаванні шэрагу імёнаў выдатных беларускіх дзеячаў: Ф. Скарыны, К. Каліноўскага, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, Ц. Гартнага, А. Гаруна. Іх і многіх іншых агулам, і жывых, і мёртвых, бэндаўцы запісвалі ў чорны спіс актыўных буржуазных прыспешнікаў, нацыяналістаў, антысаветчыкаў... Не выйшла! Гісторыю перакруціць не ўдалося нават «отцу народов СССР». Сёння многія са зняслаўленых некалі імёнаў вярнуліся на скрыжалі славы і гонару беларускага народа. Што ж да методыкі Корзуна, дык паводле яе лёгка можна было б зганьбіць і вялікага Купалу, усю яго творчую і грамадскую дзейнасць — ужо толькі за тое, што паэт у гады белапольскай акупацыі (1918—20 гг.) асмеліўся напісаць некалькі востра-палемічных артыкулаў пра негатыўную дзейнасць бальшавіцкай улады на Беларусі, якія змясціў у газеце «Беларусь» — органе «буржуазна-нацыяналістычнага» кірунку.

Так, у аўтара «ПС» палітычная пільнасць нават вышэйшая, чым у пасляваеннага МДБ, якое не западозрыш нават у мізэрных сімпатыях ці ў абыякавасці да лёсу беларускіх «нацыстаў-нацыяналістаў», ды ўвогуле да ўсёй эміграцыі. Ужо б яны, нядобрай памяці тагачасныя «эмдэбэшнікі», маючы на руках хоць і нязначны, але законны кампрамат на Забэйду-Суміцкага, даўно б выцягнулі яго з Прагі на расправу ў Савецкі Саюз, як гэта зрабілі з Ларысай Геніюш, яе мужам і многімі іншымі беларусамі, не меўшымі нават савецкага грамадзянства.

Дык каму ж даць веры: звышпільнай інтуіцыі В. Корзуна ці, можа, праўдзівым сведчанням многіх добрых знаёмцаў Беларускага Салаўя (Шырму, Танку, інш.), «пасіўнасці» органаў МДБ ці, можа, «Споведзі» паэткі-пакутніцы Ларысы Геніюш? («Маладосць». № 2, 1990 г).

**«...Немцы са сваёй ведамай дакладнасцю загадалі ўсім арганізавацца ў свае, імі дазволеныя арганізацыі... Беларусам дазволілі Камітэт самапомачы... Нас было мала, не было ні памяшкання, ні сродкаў на гэта... Ніякай палітыкі ў Камітэце мы не праводзілі, ды і не маглі праводзіць. Толькі дурань можа цвердзіць, што немцы маглі дазволіць некаму нейкую палітыку. Усё зводзілася да цесных, акрэсленых рамак самапомачы... Людзі гінулі, як мухі, нездарма два тыраны пасябравалі паміж сабой. Францыя ляжала ўжо пакаранай... Гераічна, амаль у адзіночку, змагалася старая, мудрая Англія... Фюрэр і кампанія планавалі напады... Сталін паціраў рукі над загубай Эўропы, а людзі ратаваліся як маглі. ...На шчасце для Эўропы, Гітлер быў заваёўнікам, але абсалютна паганым палітыкам, і не трэба было вялікага розуму, каб прадбачыць канец авантуры...»**

**А вось што прыпамінае ў «Споведзі» Л. Геніюш аб сходзе «Камітэта самапомачы» ў Празе, на які так «удакументавана» абапіраецца В. Корзун у сваёй публікацыі. Цытую асноўнае, а больш падрабязна кожны можа пачытаць у «Маладосці».**

**«...Сабраліся ўсе... нарэшце ён выйшаў (Ермачэнка)... Загадаў выбраць старшыню сходу... Выставілі кандыдатуры Захаркі, Забэйды, маю. Мы ўголас адмовіліся... Прыйшоў мой муж, яму не далі яшчэ ні сесці, ні апамніцца, як ужо «выбралі» старшынёй сходу. Ермачэнка зачытаў тэлеграму Гітлеру ад нашага Камітэту... як ад беларусаў у Празе... Мы пачалі пратэставаць, што Камітэт самапомачы — арганізацыя апалітычная, не мае права даваць такіх тэлеграмаў... Напісалі пратакол сходу, але ніводзін з нас не падпісаў яго. Не падпісалі гэтага сведама... Пасля ўжо невядомым чынам «...архіў «Беларускага Камітэту Самапомачы ў Празе»... апынуўся ў Менску, і паводле яго нас судзілі. Толькі там была зробленая яшчэ адна подласць — на непадпісаным пратаколе ўсе нашыя подпісы былі выведзены пад капіроўку!..»**

«Споведзі» Л. Геніюш нямnetwork можна не верыць. Напісаць гэта мог толькі праўдзівы высокага таленту чалавек, з крыштальна чыстым сумленнем і мудрай галавой, напісаць крывёю ўласнага сэрца. «Споведзь» — і неацэнны гістарычны дакумент, абмінуць які пры асэнсаванні складаных спраў той пары немагчыма і юрыстам, і навукоўцам.

ЯШЧЭ не так даўно пра беларускую эміграцыю грамадскасць рэспублікі ведала зусім мала. Дзякуючы шматгадовай аднабаковай інфармацыі друку, разгромным публікацыям «спецыялістаў па беларускіх нацыяналістах», эміграцыя ледзьве не агулам змешвалася з нечым «не нашым», з варожым савецкаму народу асяроддзем. Добра ведаючы пра незайздроснае існаванне землякоў на Радзіме, беларуская эміграцыя мусіла не маўчаць, і ўсе злачынныя праявы сталіністаў (пазней — брэжнявістаў і да іх падобных) слушна і востра крытыкаваліся ў эмігранцкім друку і ў радыёперадачах на Савецкі Саюз, за што «ўзнагароджаны» былі эмігранты кляймом «нацыяналісты». Але аўтары кляйма паспадзяваліся, пэўна, на поўную некампетэнтнасць сваіх чытачоў адносна сутнасці самога тэрміна, а ён, аказваецца, мае два процілеглыя значэнні: 1. Прыхільнік нацыяналізму — рэакцыйнай буржуазнай ідэалогіі і палітыкі... 2. Прыхільнік нацыяналізму — удзельнік нацыянальна-вызваленчага руху за незалежнасць народа, нацыі супраць іншаземных прыгнятальнікаў...

Змагацца з замежнымі іншадумцамі этычнымі сродкамі, на роўных, «апанентам», так бы мовіць, «не выпадала». Вось і былі сканструяваны, выпушчаны па ўсім актыве беларускай эміграцыі разгромныя залпы больш і менш вядомых аўтараў. Два розныя паняцці свядома блыталіся, змешваліся: антыпатычныя настроі, крытычныя захады суайчыннікаў за мяжой супраць сталінісцкага рэжыму — і крывавыя дзеянні злачынцаў у гады нямецка-фашысцкай акупацыі, якіх тады хапала і ў іншых нацыях і народах.

Яшчэ напярэдадні Айчыннай вайны ў пражскіх беларусаў існаваў ужо прыблізны знак роўнасці паміж злавеснай памяці рэжымамі сталінісцкім і гітлераўскім. Беларускім эмігрантам, улічваючы хісткі стан іхняга няпэўнага жыццёвага існавання ў Чэхаславакіі, выбіраць не было з чаго. Яны апынуліся як бы паміж молатам і кавадлам. Мяняць арыентацыю — амаль тое ж, што скакаць з агню ды ў полымя. Усходняя і заходняя тыраніі нібы спаборнічалі паміж сабой у масіраваным знішчэнні непажаданых суграмадзян, у першую чаргу лепшых носьбітаў грамадскай думкі, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, шматлікіх іншадумцаў з рабочых і сялян.

За вымушанае іх падпарадкаванне нямецка-фашысцкім акупантам колькі ж давялося перажыць беларускай эміграцыі: цкаванне ў савецкай перыёдыцы, пакуты ў засценках сталінісцкага МДВ (куды трапілі, напрыклад, Л. Геніюш з мужам і сынам-падлеткам). Хіба яны, тыя няшчасныя нашы землякі, што збеглі ад пілсудчыны ды сталіншчыны ў братэрскую Чэхаславакію, ратуючы не толькі свае жыцці, а і свой нацыянальны гонар ад вялікадзяржаўных хціўцаў, мелі нейкую іншую магчымасць абараніцца ад чарговых выпрабаванняў злога лёсу? Чаму б перад асуджэннем іх неўпадабанай дзейнасці (таго ж Забэйды-Суміцкага) аўтару «ПС» хоць у думках не паставіць сябе на іхняе месца, у той злавесны неўладкаваны час?! Але ж да гэтага здатныя тыя крытыкі, якім не бракуе чалавечага сумлення, мудрасці, умення супастаўляць жыццёвыя сітуацыі і акалічнасці.

А калі ж у гісторыі СССР і гуманныя захады з боку вышэйшага кіраўніцтва, ды часамусьці хутка забываліся. Было своечасовае мудрае рашэнне пасляргэвалюцыйных урадаў БССР і СССР аб амнісціраванні ўсіх былых палітычных праціўнікаў (нават членаў урада БНР). Адбыўся вялікі гуманістычны акт агульнанацыянальнага прымірэння, які нямала садзейнічаў кансалідацыі беларускага народа ў першыя гады яго нацыянальнага адраджэння. Варта прыпомніць і другі такі гуманны ўчынак савецкага ўрада. Як вядома, пасля смерці крывавага тырана, у сярэдзіне 50-х, адбылося масавае амнісціраванне зняволеных з ліку былых уласаўцаў, бандэраўцаў, старастаў і іншых супрацоўнікаў карнага і адміністрацыйнага апаратаў, непасрэдна не запэцканых у крывавых акцыях фашысцкіх акупантаў. Але дагэтуль, праз тры з палове дзесяцігоддзі, не перавяліся аматары дробязнага выкрывальніцтва, якія, пры нагодзе, па старой звычцы-завядзёнцы любяць «пакапацца ў бялізне» іншадумца і нават няпэўныя вынікі сваіх неэтычных «даследаванняў» спяшаюцца абнародаваць з мэтай апаскудзіць сваю ахвяру...

Такой гнюснай праблемы няма ў ніводнай цывілізаванай краіне, дзе дэмакратыя існуе рэальна, а не на словах. У нас жа няма пакуль звычайнай палітычнай цярпімасці ў грамадстве. А без гэтага не бывае і міру сапраўднага.

**Крывавы дыктатар Франка паставіў помнікі ўсім змагарам у часы грамадзянскай вайны, прыяцелям і непрыяцелям,—усе яны загінулі за Іспанію, яны не вінаватыя перад радзімай, проста па-рознаму з палітычнага пункту гледжання яе бачылі. Да ўсіх гэтых помнікаў у памінальны дзень кладуцца кветкі... Працытую і ўспаміны В. Букоўскага («Литературная газета» за 27.06.90 г.): «...Мои друзья, участники французского Сопротивления, говорили мне както, что не было никакого смысла после войны разыскивать и наказывать коллаборантов. За малым исключением, коллаборантами было всё население Франции, — говорили они. — Так же как вся Франция была в Сопротивлении. Не стоит одну огромную несправедливость преодолевать с помощью несправедливости другой...»**

Горка ўспамінаць, што ў нас інакш рабілася.

ЗАВЯРШАЮЧЫ свой чытацкі водгук на артыкул В. Корзуна ў «ПС», мушу дадаць наступнае. Сёлета ў лютаўскім нумары шаноўнага часопіса «Беларусь» была змешчана мая сціплая, значна пакарочаная публікацыя пра Забэйду - Суміцкага «Салавей бацькаўшчыны мілай». Мяне вельмі збянтэжыла і дагэтуль не дае супакою зробленая па невядомай прычыне важкая рэдактарская падмена ў тэксце, без майго ўдзелу і згоды, чым значна павярэджана сутнасць публікацыі. Цяпер у ёй чытаецца пасля сказу «...што Забэйда-Суміцкі, маўляў, спяваў і пры немцах - акупантах...», наступнае: «...Да таго ж ён меў нянічасце прысутнічаць на сходзе «беларусаў, што жылі ў пратэктараце Чэхія і Маравія», на якім прымалася пастанова паслаць «правадыру нямецкага народа канцлеру Адольфу Гітлеру» прывітальную тэлеграму і іншыя не менш ганебныя дакументы, калі фашысты напалі на СССР. На жаль, Забэйда нічога не піша пра гэта ў сваіх успамінах, і нам застаецца толькі здагадвацца, што кіравала яго паводзінамі.» У мяне ж гэта было выкладзена іначай: «...Так, сапраўды ён і пры акупантах спяваў, бо не спяваць не мог. На тое былі важкія жыццёвыя прычыны. Па-першае — гэта была яго прафесія, ягоны хлеб надзённы. Па-другое — адзіна магчымая ў яго стане форма выказвання ўнутранага пратэсту, яго зброя супраць самой прысутнасці фашысцкай на роднай зямлі, дзе нарадзіўся і гадаваўся, грамадзянінам якой ён тады хоць не значыўся, але сэрцам належаў...». Але атрымаўся «абмен», ад якога сумна на душы...

Што ж датычыцца Забэйды-Суміцкага партызанства, пра якое дарэмна іранізуе В. Корзун, дык спявак, наколькі мне вядома, на гэткае званне ніколі і не прэтэндаваў, хаця неаднойчы дапамагаў народным мсціўцам грашовымі сродкамі і медыкаментамі, хаця і ўдзельнічаў у Пражскім паўстанні ў 1945 г. супраць нямецкіх акупантаў...

Пры вызначэнні Забэйды-Суміцкага як неардынарнай асобы і гэтыя факты маюць немалаважнае значэнне, асабліва ўлічваючы яго хісткае, няпэўнае становішча пры акупантах.

Сам Забэйда-Суміцкі ніколі не меў ні багаццяў матэрыяльных, ні ўладнай пасады. Нават жытлом яму служыў аж да скону невялікі пакойчык па вуліцы Польскай, 12, у Празе. Адзінай вернай апорай у жыцці служылі яму вялікі прыродны талент і высокае спявацкае майстэрства, ды ў прыдачу так і не спраўджаная мара пра вяртанне на Бацькаўшчыну мілую. Не меў слынны спявак і савецкага грамадзянства — тым больш усе яго дзеянні паводле асабістых палітычных перакананняў непадуладныя ні карным органам СССР, ні брудламу пяру асобных зласліўцаў. Гэта — між іншым.

Імя Беларускага Салаўя ўжо вярнулася (хіба не адчуваеце?!) з нетраў забыцця на Бацькаўшчыну. Ужо заняло належнае яму ў памяці ўдзячных нашчадкаў высокае месца, сярод іншых вялікіх імёнаў дзеячаў беларускай культуры.

**Мікола ПЛАВІНСКІ,**
**цясляр механізаванай калоны г. Віцебска, краязнаўца.**



# У яго было імя...

Гэтага чалавека аматары народна-інструментальнага мастацтва не толькі лічылі цудоўным выканаўцам, дырыжорам, кампазітарам, але і сёння не могуць сабе ўявіць беларускую музычную культуру без яго каштоўнага ўкладу ў памянёныя тры сферы нацыянальнай музыкі.

Невысокага росту, каржакаваты, са строгім, але прыветлым тварам, у акулярах і заўчасна пасівелы... Заўсёды яго можна было пабачыць з балалайкай. Калегі часта жартавалі: Мікалай Вікенцьевіч Прашко, напэўна, нарадзіўся з балалайкай...

З ранняга дзяцінства на ўсё жыццё палюбіў ён гэты інструмент, да якога ставіўся з рыцарскай адданасцю. Вельмі рана ўсвядоміў ён сваю любоў да народнай песні, да мастацтва народных выканаўцаў на распаўсюджаных у сельскай мясцовасці музычных інструментах. Не было ў тых музыкаў прафесійнай адукацыі, але затое быў бясцэнны, спадчынны дар выказваць душу свайго народа. Такіх умельцаў у вёсцы Хвасты, што на Браслаўшчыне, дзе нарадзіўся М. Прашко, было шмат. Сям'я Прашко была таксама музычнаю. Бацька ў вольную гадзіну браў гармонік, маці — гітару, брат — цымбалы, а сямігадовы Міколка натхнёна імправізаваў на сваёй улюбёнай балалайцы. І тады хата напаўнялася то радаснымі, то часам сумнымі гукамі. Рэпертуар складаўся з беларускіх песень і танцаў. Мо таму, ужо атрымаўшы прафесійную адукацыю, Мікалай заўсёды і з вялікім задавальненнем выконваў блізкія сэрцу напевы.

Мікалай Прашко не меў гучных тытулаў, ганаровых званняў і ўзнагарод, але ў яго было ІМЯ. Яго паважалі і любілі таму, што ён быў самабытным музыкам шырокага творчага дыяпазону, які па-сапраўднаму валодаў сваёй прафесіяй. Слухачы яго любілі за натхнёнае і сардэчнае выкананне твораў розных жанраў, формаў, стыляў. Заўжды ён імкнуўся, каб інтэрпрэтаваная ім музыка была ясная і празрыстая па думцы, закранала патаемныя куткі душы. Ён не задавальняўся славай віртуоза, а шукаў шляхі, каб лепей выконваць місію музыканта-асветніка.

На працягу 15-ці гадоў Мікалай Вікенцьевіч стаяў за пультам аркестра народных інструментаў Палаца культуры Белсаўпрофа. Аркестранты любілі свайго кіраўніка, цанілі ў ім living разнабаковыя веды. Для свайго інструмента і для аркестра народных інструментаў ён і п'есы складаў. Музычны тэматызм, інтанацыі ягоных твораў — ад народных вытокаў. Вобразна-музычная мова звязана з сучаснымі сродкамі выразнасці, таму п'есы М. Прашко ахвотна выконваюць розныя музыканты, аркестравыя калектывы.

Сваю выканаўчую дзейнасць як саліст, ансамбліст, дырыжор М. Прашко паспяхова спалучаў з педагагічнай. Ён прайшоў шлях ад выкладчыка да прафесара Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Выхаваў плеяду цудоўных спецыялістаў, якія працуюць у Беларусі і за яе межамі. У сваіх вучняў Мікалай Вікенцьевіч выхоўваў пачуццё абавязку і адказнасці за лёс нацыянальнага інструментальнага мастацтва.

Усе віды творчай дзейнасці былі блізкія Мікалаю Вікенцьевічу, але ўсё ж такі пальма першынства належала выканаўству. Яго балалайка гучала ў гарадах і вёсках роднай Беларусі, многіх нацыянальных рэспубліках, а таксама ў Польшчы, Венгрыі, Германіі, Францыі, Фінляндыі, Швейцарыі. У апошні год жыцця яго запрасілі для чытання метадычных дакладаў і з сольнымі канцэртамі ў ЗША. Але цяжкая хвароба, а затым смерць перашкодзілі ажыццяўленню гэтага намеру.

Нядаўна ў Вялікай зале БДК адбыўся канцэрт памяці адметнага музыканта. У ім узялі ўдзел выхаванцы і калегі Мікалая Вікенцьевіча Прашко.

**Міхась СОЛАПАЎ.**

# НЕСВЯТОЧНЫЯ ДУМКІ ПРА... СВЯТА

Зноў пасля рэстаўрацыі адчыніў свае дзверы Дом-музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку. Адноўлены не толькі дом, але і ўся сядзіба.

Наведвальнікі змогуць убачыць і флігель, і свіран, і альтанку, і калодзеж, якія былі пры жыцці паэта. Пра ўсё гэта паклапаціліся, дарэчы, польскія рэстаўратары.

Цырымонія ўрачыстага адкрыцця звыклая: піянеры і астатнія прысутныя выцягнуліся абапал алеі і чакалі ганаровых гасцей з консульства ПР у Мінску, з Міністэрства культуры БССР, абласнога і гарадскога начальства. Сустрэлі іх святочным караваем, разрэзалі стужку пры ўваходзе. Потым пачаўся агляд сядзібы.

Што асабліва звярнула ўвагу, дык тое, што нашы людзі былі тут бы ў гасцях. Рэдка чулася руская мова, яшчэ радзей — беларуская. Пераважала польская. Палякі і тут вызначыліся сваім патрыятызмам і любоўю да вялікага песняра. Іх было большасць сярод прысутных. Прыехалі яны і з Польшчы, і з Літвы, сабраліся сябры польскага таварыства ў Навагрудку. Журналістаў таксама было шмат, ды толькі не нашых.

Здзіўляе, як мы лёгка падзялілі непарыўную гісторыю роднага краю на «сваю» і «несваю». Вось і Міцкевіч трапіў да «несваёй». Мы як бы забыліся, што героі яго твораў — часцей за ўсё ліцвіны, што месца, дзе адбываюцца падзеі, — Навагрудчына, што ёсць версіі, быццам паэт пісаў і па-беларуску. А, між тым, уражанне было такое, што тут, у Навагрудку, гаспадарамі былі не мы.

У прыватнасці, мне прыйшлося пачуць наступны маналог:

— Ну, вось, наша кіраўніцтва ўжо і запабягае перад палякамі. А трэба было б не так. Сказаць: «Дзякуй вам за дапамогу, усім дзякуй». Потым заплаціць, як трэба, яшчэ і прэмію даць за добрую работу, а далей — выбачайце, панове, але ж гаспадары тут — мы...

Хутка будзе акуратна прыбрана тэрыторыя, расстаўлены экспанаты, і музей зможа прымаць наведвальнікаў. Музей вельмі цікавы. Таму запрашаю ўсіх, хто будзе ў гэтых краях, не абмінаць яго. Бо гэта і наш музей, гэта асяродак культурнага жыцця Навагрудчыны.

**С. СЯНКЕВІЧ,**
**студэнт журфака Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна.**

# НА ПАКЛОН ДА МІКУЛІЧА

**Барыс Мікуліч... Калі два гады назад гэтае імя з'явілася на старонках газеты «Ангарский рабочий», я ўсё стараўся ўспомніць, што чытаў з яго твораў. Але нават успамінаць было нечага. Больш таго, само імя мне было незнаёмае.**

**Узнікла думка пабываць на магіле пісьменніка-земляка, тым больш, што ад Раздолінска да Матукоўкі, дзе пахаваны Мікуліч, не так далёка. У гэты час я пачаў працаваць у рэдакцыі раённай газеты і аднойчы карэспандэнцкія дарогі прывялі мяне ў Матукоўку.**

**Большасць насельніцтва гэтага пасёлка — дзеці і ўнукі тых *перасяленцаў, якія трапілі* ў гэтыя мясціны не па сваёй волі. Не стаў прасіць мясцовых жыхароў, каб паказалі магілу Мікуліча. Я быў упэўнены, што знайду сам. Усё ж пісьменнік. Спачатку агледзеў больш-менш прыкметныя помнікі. Потым некалькі разоў прайшоўся па старой частцы могілак, але знаёмага прозвішча так нідзе і не прачытаў. Магілу Мікуліча мне ўрэшце паказалі. Металічная агароджа, звычайная, зваранная з ліставога металу і пафарбаваная белаю фарбай пірамідка. Зламаўшы ўжо засохлы быльнёг, каб лепш было відаць надпіс, зрабіў некалькі фотаздымкаў. У кадр трапіла старая драўляная пірамідка за агароджай. Яе *паставілі тыя людзі, пра якіх* Барыс Мікуліч пачаў пісаць кнігу. На жаль, рукапіс незакончанага рамана згубіўся. І, магчыма, назаўсёды. Мала хто ў той час мог адважыцца берагчы паперы апальнага пісьменніка. Карэс*пандэнтка нашай газеты* Ларыса Ламаева звярнулася да жыхароў Матукоўкі з просьбай пашукаць у старых каморах લісткі, напісаныя рукой Мікуліча па-беларуску. Да гэтага часу ніхто не адгукнуўся.**

***Пасля могілак стала горка.* Нават мёртвым Бог і людзі не роўна дзеляць. Каму помнікі з граніту ў пабольшанай прапорцыі, а каму маленькая пірамідка з недакладным надпісам даты смерці і быльнёг на магіле.**

**А Мікуліч заслужыў большага. І, напэўна, не патрэбны на беразе Такеевай пампезны помнік. Можна было б арганізаваць сустрэчу яго паплечнікаў, родзічаў, прыхільнікаў яго таленту. Адным словам, арганізаваць Мікулічаўскія чытанні. А да гэтага нядрэнна было б хоць што-небудзь прачытаць з яго твораў. Мы ж, што жывём на зямлі, якая дала Мікулічу апошні прытулак, нічога з яго твораў не маем.**

**А. ЕРМАКОЎ.**

Матукоўка — Матыгіна — Раздолінск.

# І БЕЛАРУСКІ, І ЭЛІТАРНЫ? ТАК!

**З кіраўніком Менскага музычнага драматычнага тэатра Аляксандрам ХВОСЦІКАВЫМ гутарыць наш карэспандэнт Жанна ЛАШКЕВІЧ**

**— Аляксандр, як кажуць, адразу быка за рогі: чаму ты вырашыў распачаць з таго, што, паводле шматлікіх сведчанняў, «прадаецца» блага: з беларускага нацыянальнага рэпертуару?**

— Не распачаць. Пабудаваць. Дакладна мая пасада называецца шэф-менеджэр, чалавек, які вызначае рэпертуарную палітыку тэатра, набірае акцёраў, ладзіць кантакты з імі і забяспечвае ўсё, што ў кантрактах *запісана. А там* запісана, паміж іншым, і пра ажыццяўленне пастановак беларускай класікі. На маю думку, сённяшні заняпад тэатра можна пераадолець толькі праз нацыянальныя і класічныя формы тэатральнага дзейства. Мая мара — стварыць тэатр беларускамоўны і элітарны. Не ў багемным — у тутэйшым разуменні гэтага слова: тэатр беларускі.

**— Але элітарны тэатр мусіць быць стратным...**

— Хто табе гэта даверу? Я яшчэ ні ў кога капейкі не прасіў, ні ў Міністэрства культуры, ні ў спонсараў. А пастановак на сённяшні дзень ужо тры. Дарэчы, я пачаў сваю самастойную камерцыйна-антрэпрэнёрскую дзейнасць, назаву яе так, у 1988 годзе: дапамагаў тэатру «Дзе-Я», утрымліваў рок-групу «Даміно» і г. д. З'явіўся матэрыяльны грунт для ажыццяўлення маёй даўняй мары — стварэння тэатра паводле старасвецкага — шэкспіраўскага прынцыпу, дзе агульная колькасць акцёраў не перавышае 12—14 чалавек, дзе ўсе залішнія, на мой погляд, адміністрацыйныя звёны ліквідаваны. Я — дырэктар, мастацкі кіраўнік, грузчык... Нашы дэкарацыі можна вазіць у тралейбусе. Нашы спектаклі стасуюцца да самых нетэатральных пляцовак (і гэта не вымагае эстэтыкі так званага «тэатра жабрацтва»). А грошай, дарэчы, я ні ў кога не прашу прынцыпова: трэба прыніжацца, а могуць жа і не даць! Мяркую, тэатр можа забяспечыць вынаходлівасць і прадпрымальнасць. Ёсць шмат спосабаў,— і няхай я не нагадваю табе Панурга ці Астапа Бэндэра,— спосабаў абсалютна сумленных.

**— Даруй не надта далікатнае пытанне: ты калісь пачынаў кар'еру артыста...**

— Яшчэ раней, у 1970 годзе, я трапіў у Рускі тэатр БССР манціроўшчыкам дэкарацый. Якраз давалі спектакль Лопэ дэ Вэгі, дзе манціроўшчыкаў убіралі ў «гішпаньскія» строі, каб рабіць адкрытую перамену дэкарацый. Такім чынам я ўпершыню выйшаў на сцэну і... аслупянеў. Натуральна, так слупам і стаяў, пакуль таварышы па манціровачным цэху не выцягнулі за кулісы. Пакуль стаяў слупам, чамусьці вырашыў, што акцёры — самыя шчаслівыя людзі ў свеце. Я заўсёды хацеў быць акцёрам і, магчыма, яшчэ буду ім (за плячыма Аляксандра Хвосцікава — акцёрскі факультэт БДМТІ,— **Ж. Л.**), але не буду хаваць: *менавіта матэрыяльны бок маймго* існавання ў мастацтве паспрыяў абраць дырэктарска-антрэпрэнёрскі шлях. Тэатр можна рабіць толькі пры наяўнасці добрых грошай, якія гарантуюць пэўную незалежнасць.

**— Я магу падрахаваць: да акцёрскіх памкненняў далучыўся талент спраўнага камерсанта?**

— І вялікі вопыт адміністратарскай работы.

**— А ці не баішся ты, што твае нацыянальныя элітарныя памкненні бліжэйшым часам збэсцяць якіясь нетутэйшыя — гастрольныя пікантныя відовішчы?**

— Ну... гэта свае жанры, свае кірункі... традыцый якіх у нас нямашака... А людзі па сваёй бальшыні — кансерватары. Пасля заморскіх прысмакаў цягнуцца да сваёй улюбёнай бульбы. Такім чынам, сексуальныя, эратычныя, усходне-адзіяцкія відовішчы прывабяць толькі самых адданых прыхільнікаў. А культура тэатра ёсць культура тэатра. Па-мойму, гэдзе выклікаць на падмосткі цень бацькі ўсіх народаў ці распранаць жанок. Цяпер на двары — духоўны крызіс, але ён не можа быць вечным.

**— Няўжо крызіс можна пераадолець кабетамі ў лапцях і «выклікannем» дарагіх ценяў на Дзяды, як гэта адбываецца ў адным з вашых спектакляў паводле Янкі Купалы і Леапольда Родзевіча?**

— Яшчэ ў школе зайздросціў равеснікам з Літвы. Маўляў, іх навучаюць адзінаццаць гадоў, а музыцы, спевам і выяўленчаму мастацтву — да самых старэйшых класаў... Таму цяпер спраўджваю яшчэ адну сваю мару — зрабіць «як у Літве». Напрыклад, каб на нашы спектаклі хадзілі бацькі з дзецьмі, школьнікі. Каб хадзілі не толькі ў Мінску. У Кішынёве ўжо маем дамоўленасць з румынскім тэатрам — паставім спектакль і вывучым ролі яшчэ і па-румынску. Мы ўжо гастралявалі па Літве, ігралі па-літоўску. Акцёры вучаць тэксты і ніхто не наракае на цяжкі лёс.



Сцэна са спектакля «Смешныя і грэшныя людцы мае...» Янкі Купалы і Л. Родзевіча.

**— Ці вучыўся ты арганізацыі тэатральнай справы?**

— У 1985 годзе пабыў на курсах павышэння кваліфікацыі ў Маскве ў групе дырэктараў музычных тэатраў. Сёлета памкнуўся ў ГІТІС, ды там, на маю думку, несур'ёзна вучаць. Шмат у чым дапамагае інтуіцыя і веданне кан'юнктуры тэатральнага рынку.

**— Хутка, дарэчы, мы ўсе ўступім у рынак нетэатральны, які не надта стане садзейнічаць (прынамсі, напачатку) любові да тэатра. А ты (інтуітыўна?) укладаеш грошы не ў выданне соннікаў, не ў выраб жавальнай гумкі і нават не ў распрацоўку дазіметраў. Займаешся справаю, якая, мабыць, у тутэйшага спраўнага арганізатара можа выклікаць падабенства ўсмешкі...**

— Тэатр люблю.

**— Можа (як сфармуляваў нямецкі акцёр Берхард Мінеці), забяспечваеш прастору мастацтву ў атачэнні антыкультуры?**

— Без паветра культуры самы спрактыкаваны рынак задыхнецца. Упэўнены — будучыня за намі і падобнымі да нас...

# ПАДСТАВЫ РАЦЫЯНАЛЬНАГА НАЦЫЯНАЛІЗМУ

(Пачатак на стар. 3).

**альнасць, як хлеб на стале... палохаецца, адчуваючы сваю мізэрнасць і безабароннасць, нікчэмнасць сваіх сварак і спраў. Не запанікуе ў такой сітуацыі толькі той, хто адчувае ў сабе роўнавялікі сусвет. (Не запанікуе і нацыя, што пачуваецца роўнавялікім суб'ектам). Гэта чалавек з развітой душой, выхаваны і адукаваны. Гэта носьбіт ПАТАЕМНАГА — нацыянальнай культуры. Ён верыць у свае сілы, ён гаспадар гэтых традыцый, гэтай зямлі і гэтых дрэваў. Ён адказны за іх. Ён перастае быць прыдаткам і сляпым выканаўцам нечае волі, нейкіх міфаў, ідэалогій, партый. Ён — сусвет.**

Вера ў сябе была ў адраджэнцаў нашаніўскае пары, якія пакладаліся адно на сябе і ні з кім не дзялілі адказнасць за свае ўчынкі. Яны не адваёўвалі і не патрабавалі беларускіх школаў, парафіяў, тэатраў, друку. Яны рабілі ўсё гэта явачным парадкам. Гэта быў здаровы пачатак беларускага нацыяналізму.

Таталітарны савецкі пост-рамантызм выцесніў з нас гэтую веру — веру ў асэнсаванае, усвядомленае, зразумелае. І не варта нам аддавацца ілюзіям наконт «беларусізацыі» 20-х гадоў. Гэта было перараджэнне нацыянальнай ідэі пад выглядам яе пашырэння і развіцця. Усё нацыянальнае, як і ўсё чалавечае, трапіла ў залежнасць, стала другасным адносна сацыяльнага міфу. Мы можам дзякаваць асобам адраджэнцаў, але не дзяржаўнай палітыцы, якая ніколі не была беларускай. І 17 верасня 1939 года таксама. Цешыцца тым, што мосьцы перапаў кавалак пад нагамі дыназаўраў, якія сышліся ў двубоі, — малая годнасць.

НЕ АД ГЭТАЙ «беларусізацыі» працягваць нам Беларускі Шлях. Ад «Нашае Нівы». Апафеозам нашаніўскае пары сталася праца Ігната Абдзіраловіча «Адвечным шляхам», якую даследчык У. Калеснік памылкова залічвае да рамантызму. За наступныя 70 гадоў беларуская ідэя ні на крок не пасунулася далей. І сёння эцюды І. Абдзіраловіча чытаюцца як перадавы артыкул заўтрашняга нумару газеты.

**Абдзіраловіч — рацыянальны нацыяналіст. Узгадайце некаторыя палажэнні: ніякіх святыняў і багоў-малохаў; дакладны баланс заходніх і ўсходніх уплываў на Беларусь; не створым свайго месіянізму і г. д. Нехта называе яго анархістам, нехта ўжо — экзістэнцыялістам. У чым тут загадка? Магчыма, у тым, што «Адвечным Шляхам» не трэба разглядаць, як пэўную філасофскую дактрыну. Гэта кіраўніцтва да беларускага нацыяналізму і адначасова — твор на мяжы мастацтва. Евангелле Адраджэння.**

**Абдзіраловіч выснаваў рацыянальны погляд на жыццё, калі на Беларусі яшчэ рана было казаць пра урбанізацыю ў сферы духу і маралі. Сёння ж сутнасць гэтага погляду бачыцца так.**

**Усё адноснае ў свеце: і палітыка, і рэлігія, і філасофія, і нават мараль (калі гэта не ўся палітыка, не ўся рэлігія, філасофія і мараль). Безадноснае толькі існаванне чалавека.**

**Калі асноватворнымі ў грамадстве прызнаюцца палітычная дактрына, рэлігійны канон, філасофская тэорыя і пэўны маральны кодэкс, — тады ўжо існаванне аўтаматычна робіцца адносным, — адносна дактрыны, канона, тэорыі, кодэкса. Тады дырэктуюцца ўмовы для чалавечага існавання, пры якіх яно можа быць лепшым ці горшым і ўвогуле — быць. Гэтак распараджаліся запанавалыя палітычныя дактрыны (калі, скажам, у імя захавання сацыялістычнага мацерыка можна было аддаць пад акупацыю цэлы народ), рэлігійны канон (гарэлі ерэтыкі), філасофская тэорыя (той жа камунізм), маральны кодэкс (калі секлі галовы за тое, што маеш бараду, ці разглядалі на працоўным калектыве за тое, што развёўся)...**

**Калі першаснае існаванне чалавека, дык у яго няма іншага кірунку, акрамя як да паляпшэння. Існаванне кожнага — абсалютная вартасць, вытворная ад яе — існаванне ўсіх. Не наадварот.**

**Вытокі гэткага светапогляду знаходзім і ў практыцы сярэднявечнае Беларусі. Рацыянальная логіка, выбар аптымальнага, здаровы сэнс... Ці не гэта, між іншага, — прычына нашага заняпаду? Магчыма, у свеце, які жыў тады адно эмоцыямі, лепш было і нам стаць шаманамі, каб вырваць свой і большы кавалак. Але... Не было ў нас сваіх Хамейні, Гітлераў ці іншых аб'ектаў масавага нацыянальна - рэлігійнага псіхозу. Чаму? Бо не было «наседжанага месца» — нацыянальна - рэлігійнага фундаменту, эмацыйнага падмурку жыцця. Мы і набылі нешта падобнае толькі пры сацыялізме, калі па нацыянальнасці сталі савецкім народам, а па рэлігіі — марксістамі-ленінцамі, калі пачалі страчваць сваё ratio, а разам з ім — і галоўныя характарыстыкі нацыі — адзінства мовы, паходжання...**

**Сёння сустракаецца думка, што беларусам трэба ад савецкага фундаменталізму перайсці да нацыянальна - рэлігійнага. Гэтая думка падказаная тым, як ідзе адраджэнне ў суседзяў — у расейцаў, палякаў, літоўцаў, украінцаў. Але гэтак мы рызыкуем і зусім страціць УЛАСНУЮ традыцыю нацыянальнага рацыяналізму. У рацыянальным ужо свеце...**

**Вядома, у чыстым выглядзе не існуе ні рацыянальнага, ні эмацыйнага свету. Гэта вызначаецца выбарам падмурку, галоўнага стрыжня існавання грамадства. Месца ratio ў эмацыйным свеце — эмацыйнае, а месца эмоцый у рацыянальным свеце — рацыянальнае. У рацыянальным свеце немагчымая сітуацыя Сотнікава і Рыбака, калі рацыянальнае дзеянне прыводзіць да абсурднага выніку (Рыбак), а ірацыянальнае — да станоўчага (Сотнікаў), калі чалавечае жыццё робіцца меснавай манетай у ідэалагічным гандлі.**

**У цяперашнім усё больш рацыянальным свеце ўсё больш рацыянальна ўспрымаюцца такія рэчы як маральнасць, права на моцнае пачуццё і падобнае. Глядзіце, як эвалюцыянуе погляд грамадства на вобраз сярэднявечнага дзівака Дон-Кіхота, учынкі якога здаюцца нам усё больш аптымальнымі ў дзікім, ірацыянальным ягоным атачэнні.**

Трэба цягнуць Беларускі Шлях па рацыянальным грунце. Гэтак мы пазбегнем многіх традыцыйных для нас небяспек.

Першая такая небяспека — суседскія шавінізмы, якія ўсё больш рашуча ідуць з намі «братацца». Напрыклад, расейскае славянафільства, чыста эмацыйная з'ява, заснаваная на алагізме ўсходнеславянскага адзінства. Наш рацыянальны нацыяналізм — з іншай «разьбой», каб на яго можна было накруціць гэтую гайку. На кожны факт «адзінства» на нашым шляху— дзесяткі фактаў чужбы. І гэта не для чужбы гаворыцца, а дзеля праўды.

**Адзінства гісторыі. Якая розніца, хто «па нацыянальнасці» кіеўскі князь Уладзімір? У маскоўскай школе яго могуць назваць рускім, у Кіеўскай — украінцам. І ніхто тут ні ў кога не адбірае. Іншая справа, калі патрабаваць называць яго толькі рускім ці толькі ўкраінцам, улічваючы сучасны сэнс паняцця «рускі»... Што да нас, дык мы ніяк не можам лічыць Уладзіміра сваім, беларускім, а тым больш станоўчым гістарычным персанажам. Гэта цалкам знешні персанаж беларускай гісторыі і цалкам адмоўны, агрэсар. Тое самае засведчыць беларуская гісторыя і пра Івана Жахлівага, пра Аляксея Міхайлавіча («тишайшего и добрейшего»), пра Пятра Першага, Суворава і г. д. Урэшце, ці не пра ўсіх маскоўскіх уладароў за ўсе часы. Дык ці можам мы казаць пра адзінства гісторыі?**

**Тое самае — з адзінствам рэлігіі (улічваючы нашыя каталіцтва і уніяцтва), з адзінствам крыві, псіхікі і мовы. (Адносна крыві згадаем мурына Янку з Караткевічавых «Каласоў». Наконт псіхікі раю пачытаць «Заметки о русском» Д. Ліхачова і знайсці там хоць каліва чаго беларускага. Мова «адзінілася» праз рэформу 1933 года — праз смерці і высылкі мовазнаўцаў, праз «спрашчэнне» азбукі, праз саветызацыю лексікі).**

**Заўсёды даводзячы нам адзінства з сабою, расейскія славянафілы разглядалі Беларусь толькі як аб'ект гэтага адзінства і дбалі толькі пра ўласныя месіянскія інтарэсы. Урэшце (яшчэ адна падмена паняццяў), чаму мы то ўсходнія славяне разам з расейцамі, то заходнія разам з палякамі? Дзе ж тады ўласна славяне, цэнтральныя?**

**Беларускі ды расейскі нацыяналізмы ў сваёй «блізкасці» сёння бясконца далёкія, і аб'яднаць іх — маральнымі сродкамі на разумным грунце — немагчыма. (Тое ж, дарэчы, тычыцца і аб'яднання з польскім нацыяналізмам). Каб прыняць такое адзінства, трэба ім ПРАСЯКНУЦЦА, неяк адстароніцца ад здаровага сэнсу, засляпіць вочы на ўсю сваю гісторыю. Што мы, дарэчы, й робім.**

**Славянафільская ідэя ніколі не прадукавалася з Беларусі. Прыклад Апанаса Філіповіча выключны. Зрэшты, у нас нават папы справядліва лічылі яго шаманам.**

**Паўтару: беларуская нацыянальная ідэя ў гісторыі выяўлялася рацыянальна. І, далібог, самазабойствам будзе, калі сёння, у сучасным лепшым рацыянальным свеце мы будзем адраджацца на грунце эмоцый, што, дарэчы, настойліва прапануюць нам расейскія славянафілы ад прыказчыкаў з «Памяці» (Как это так! Беларусь отдельно от России! Поляки и литовцы белорусам ТАКИЕ ЖЕ братья! Да как же это так!) да А. Салжаніцына ўключна. (Яму лёгка сказаць — няхай 12 рэспублік аддзяляюцца, а тры будуць разам. «Российский союз». Але чаму гэта нам, беларусам, адкрыты кантакт з Расеяй даражэй за адкрыты кантакт з Летувай, Латвіяй, Польшчай—з Заходняй Еўропай? Гэта наша прыроднае, гістарычнае, культурнае асяроддзе, і абстаўляць новымі заслонамі свой кругагляд, перспектывы стасункаў і развіцця для нас сапраўды згубна як для нацыі).**

Праўда, адкінуць небяспеку звонку — гэта яшчэ не ўсё і, можа быць, не галоўнае. Галоўнае ў сабе. За апошнія 10 гадоў мы, грунтуючыся на эмоцыях, мала чаго практычнага паклалі ў падмурак новае Беларусі. Дзесяткі гадоў беларускага друку, радыё, тэлебачання, канцэртаў, святаў, з'ездаў і сходаў, — а плён? Усіх, каго ведаю, хто за гэты час прыйшоў да нацыянальнае свядомасці, прывабіла не гэта. Што? Асабістыя стасункі і — дух пярэчання афіцыйнай «контррэфарматарскай» беларушчыне. Беларушчыне скамунізаванай і саветызаванай, у якой і не пахла рэнесансам, г. зн. Адраджэннем. Ліпець — вось яе прызначэнне. Як бы нам з такой беларушчынай не ператварыцца з часам у адзін з клубаў па інтарэсах...

НА ЖАЛЬ, многія й цяпер глядзяць на нацыянальнае, як на «вал». Беларуская справа нагадвае працу нашых археолагаў, якія награбаюць цэлыя сховы чарапкоў, але рэдка ўздымаюцца да самастойнай парадаксальнай высновы. Усё гэта мае дагэтуль пераважна канстатацыйны, рэгістратарскі характар.

Плодзяцца таварыствы, выданні, мерапрыемствы, але ўсё — да кучы. Абы болей было тае беларушчыны. Можа, колькасць перарасце ў якасць?.. Куча ўсё расце, але ніяк не назавеш яе Домам, які мы прадумана і скаардынавана, з дапамогай складаных прыстасаванняў будуем для сябе і свае нацыі. Мы і самі не жывём у гэтай кучы, кожны дзень вяртаючыся з «будаўніцтва» ў іншае асяроддзе і часта — іншымі людзьмі.

Каб пачаць будоўлю прафесійна, трэба зрабіць замеры, дакладна вызначыць, дзе і чым капаць, чым і з чаго будаваць. Мы ж пакуль «будуем увогуле».

Ratio патрабуе для пачатку прызнаць, што ёсць тое, што ёсць, а чаго няма... Няма такой развітой культурнай нацыі — беларускай. Няма аніякіх падставаў супакоіцца на «пачэсным пасадзе між народамі». Гэта ілюзія — мысліць беларусаў у адным шэрагу з немцамі, рускімі, нават з летувісамі — у адным кантэксце культурных і навуковых задач. Нас толькі тысяча. Гэта толькі зародак нацыі, але ўжо не нішто. Пра «гіне мова» можна было крычаць гадоў 10 таму, калі нас амаль не было ўвогуле. Сёння мы даўно паўтараемся ў сваім эмацыйным галёканні. Мы падсведама ўсё яшчэ спадзяёмся на нейкую метафізічную сілу, што існуе ў прыродзе беларушчыны незалежна ад волі кожнага з нас. Мы верым у вышэйшую справядлівасць. Мы верым, што трэба толькі памнажаць, а ўжо нейкія патаемныя законы развіцця самі спарадкуюць з кучаў нашага плёну прыгожы палац. Мы часам і разумеем мазгамі, што нічога не зробіцца само. Ды толькі даўгія гады бальшавіцкага пострамантызму навучылі нас менш давяраць уласным мазгам, а больш — рэчам, для розуму недасягальным. Самое паняцце **суб'ектыўны** стала тоесным паняццю **ірацыянальны** («У гэтым артыкуле аўтар занадта суб'ектыўны!»). Бо ўсё вялікае і малое, добрае і благое ў гэтай краіне рабілася само. Тыран змяніў манарха, які замяніў Бога. Зруйнавалі веру ў Бога — паверылі ў камунізм, зараз руйнуецца вера ў камунізм — зноў пачынае культываваццца вера ў Бога. Ды калі ж нашыя душы перастануць залежаць ад вонкавых дактрын? Ці не тады, калі асабістай суб'ектыўнай дактрынай кожнага стане перад усім чалавечнасць у беларускім абліччы, наш нацыяналізм?

**Бог, рэлігія, канфесіі. Ужо праваслаўныя сварацца з уніятамі, каталіцызм наскрозь прасякнуты пальшчызнай, праваслаўе, паводле мітрапаліта Філарэта (у «Нашым слове»), яшчэ толькі экзаменуе беларускую мову на сталасць. РАСЕЙСКАЕ, падкрэслю, праваслаўе экзаменуе БЕЛАРУСКУЮ мову. Гэтаксама, як у школьных падручніках Іван Фёдараў дагэтуль «экзаменуе» Францішка Скарыну.**

**І вось ужо пачынае выяўляцца новы прыярытэт — канфесійны, які спакваля заступае нашыя нацыянальныя справы і ў сферы палітыкі, і ў сферы культуры. Існаванне нацыі зноў робіцца адносным — адносна рэлігіі.**

**Але галоўны вынік запанавалае рэлігіі бачыцца мне ў тым, што паміж чалавекам і ягоным маральным выбарам зноў з'яўляецца пасрэднік — той, які бярэ на сябе ўсю адказнасць, бо можа адпусціць любыя грахі.**

**А нам цяпер так бракуе веры ў сябе, у СВАЕ сілы. І таму рэлігія на Беларусі, думаецца, мусіць стаць дапаможніцай нашага нацыянальна - культурнага Адраджэння, а не прадметам старога-новага культу для нацыі. Прадметам культу можа і павінна стаць мова, нацыянальная свядомасць. Прычым адлегласць паміж культам нацыянальнага і шавінізмам у нас — бясконцая. Трэба кволаму набрацца сілы, а тады ўжо будзе гутарка пра тое, каб гэтыя сілы не былі агрэсіўныя. У нас жа «прафілактыка» беларускага экстрэмізму прывяла да таго, што ў кватэры не толькі ўсе тараканы здохлі, але й людзі атруціліся да клінічнае смерці.**

Нацыя — вялікі чалавек. І ў ёй трэба выхоўваць здаровы дух у здаровым целе, годнасць, сумленне і веру ў свае сілы.

Вера ў свае сілы і непадзельная адказнасць, як другі бок **свабоды** — вось што трэба для вялікай мадэрнізацыі беларушчыны, без якой мы проста не застанёмся. А першая мадэрнізацыя — гэта ўдасканаленне мовы.

Ведаеце, каб людзі звярнулі ўвагу на мову, з ёй — з мовай — павінна нешта адбывацца. І калі сёння да мовы патрабуецца максімальная ўвага людзей Беларусі, значыць — мова павінна максімальна (парадаксальна) праяўляць сябе ў жыцці. Нашымі высілкамі, вядома.

**(Адзін мой знаёмец, разважаючы, прыйшоў да наступнага абсурду:**

**— Дзеля ацалення мовы сродак мусіць быць моцны і хуткадзейны. Задача — стварыць мове «ахоўную зону» і навучыць ёй народ. Што рабіць? Перавесці на лацінку? Гэта б падзейнічала. Але беларуская мова лацінкай набліжаецца да другога асімілятара — пальшчызны. Зрэшты, і кірылка, і лацінка — кожная ўлічвае («пакрывае») толькі палову беларушчыны, калі глядзець на традыцыі. Але зноў уводзіць сёння дзве графікі — значыць, стварыць сабе вялікія цяжкасці, прычым, на ўсю перспектыву нашага існавання. Таму згадаем, што беларуская мова ў гісторыі ведала не два, а тры напісанні: кірылічнае, лацінскае і арабскае (вядомыя Кітабы). І адначасова беларуская мова ніколі не была маткай-захавальніцай ніводнае з гэтых графікаў, каб без шкадавання адкінуць любую з іх. Менавіта з арабскага напісання мы цяпер даведваемся пра жывое беларускае маўленне сярэднявечча. Не дарэмная й тая ўвага, якую надавалі Кітабам Іван і Антон Луцкевічы, Янка Станкевіч ды шмат хто іншы. На ўсе недахопы кірылкі і лацінкі ў арабскае графікі ёсць толькі адзін — засваенне. Але ж і тут я бачу станоўчы бок. Беларушчына будзе засвойвацца не з расейшчыны ці пальшчызны, а сама з сябе. Тыя людзі, якія сёння свядома пішуць па-беларуску, маглі б досыць хутка перайсці на арабскую графіку. А пры тым, што беларушчына толькі пачынае ўводзіцца ў школах, усеагульны пераход мог бы адбыцца ў межах аднаго пакалення. Якраз стольмі часу спатрэбілася, каб вывесці народ з рабства. Але гэта была б ужо гарантыя для мовы і нацыі — навечна. Сёння ўсё адно мы будзем перавучваць дзесяткі тысяч на нейкі новы правапіс і ад пачатку вучыць мільёны...**

**Калі я хацеў быў пачаць пярэчыць, мой знаёмец спыніў мяне:**

**— Пачакай. Не трэба пустых і непатрэбных спрэчак. Такія меры — не дыскусійныя, яны альбо прымаюцца альбо не прымаюцца. Як адкрыты масаж сэрца...**

**Абсурдная думка. Толькі я не ведаю прычыну яе абсурднасці. Альбо гэта мая рацыянальная свядомасць вызначае яе ірацыяналізм, альбо адносна маёй абсурдызаванай свядомасці яна, рацыянальная, здаецца абсурднай...)**

Але ж пры нашай нерашучасці... Мне здаецца, што пры такіх варунках, як нашы, летувісы, напрыклад, вярнулі б дарэформенны правапіс ужо на другі дзень перабудовы. Проста явачным парадкам газеты і часопісы сталі б выходзіць паводле Тарашкевіча, а не паводле Галадзеда і Кандыбовіча.

Вялікая справа таксама — удасканаленне лексікі. З аднаго боку мова зусім не урбанізаваная, з другога — спрэс пашкоджаная той самай падменай паняццяў. І ўсё таго ж не стае — адпаведнасці.

ПАДМЕНА ПАНЯЦЦЯЎ выявілася і ў шэрагу тых «стандартных рэчаў» — апорных пунктаў нацыянальнай свядомасці, з якіх уласна і пачынаецца нацыя. (Памятаеце — «С чего начинается родина? С картинки в твоем букваре», альбо — «Кім ты естэсь?»). Гэта беларуская сімволіка і беларускія грошы. Гэта і сталіца — цэнтр нацыі і яе рэліквія.

У нас (у кулуарах) неяк стыхійна сфарміраваўся стэрэатып чатырох беларускіх сталіц — Полацак, Наваградак, Вільня, Менск. Гэта справядліва, бо толькі ў такой суме мы і атрымліваем поўны вобраз беларускае сталіцы. Але ў справе фарміравання нацыянальнай свядомасці найбольшая вага тут была, ёсць і яшчэ доўга будзе ў Вільні.

**Скажаш каму пра Скарыну, Каліноўскага, нашаніўцаў, заходнебеларускіх адраджэнцаў а ў адказ пытанне: «А что они там, в Вильнюсе, делали?»**

**Сапраўды, што? І пры чым тут мы з нашым Адраджэннем?**

**Шлях любога дзеяча, любога мастацкага, літаратурнага кірунку, навукі, ды ўсяго беларускага ўвогуле спрадвеку і да пачатку XX ст. пралягаў праз Вільню. Мяжа БССР тут сталася нажом гільяціны, які апусціўся на шыю нацыі. І адчужэнне Вільні сёння — гэта адчужэнне і амаль усяе беларушчыны. Без усведамлення беларусамі гэтага горада як свайго наша нацыянальнае Адраджэнне вельмі праблематычнае. Маральна мы [illegible] — на пустым месцы. Мы можам так і застацца прэтэндэнтамі на эфемерную Старую Беларусь, а не праваднікамі магутнай нацыянальнай традыцыі.**

**Наш рацыянальны ўрад высунуў прэтэнзіі на Вільнюс. Між тым, нашаму рацыянальнаму ўраду яшчэ ўчора трэба было падбаць пра рэальную дапамогу віленскім беларускім асяродкам, пра беларускія школы для тысяч віленскіх беларусаў, якія апынуліся цяпер у недарэчным становішчы часткі няіснага савецкага народа і натоўпамі ходзяць у «інтэрах» ці «паляках», а галоўнае — падбаць пра даступнасць Вільні для Беларусі пры ўсіх магчымых межах і мытнях на іх.**

Беларусі не пашанцавала і яшчэ з адным апорным пунктам — з саманазвай. Гэтая рэч мае больш глыбокія карані, чым нават мова. І хоць у свеце не адрозніваюць Беларусь ад Расеі, мяняць назву (а такія прапановы ёсць) не рацыянальна. Гэта амаль тое, што змяніць насельніцтва, якому належыць стаць нацыяй.

Але ў такім разе нам ніколі не разабрацца ва ўласнай гісторыі без прысваення словаў **Літва** (літоўскі, літовец) і **Русь** (рускі). Гэта ж мы, беларусы, фігуруем у гісторыі як Літва і Русь, тады як нашыя суседзі спрэс называюцца маскавітамі ды жмудзінамі. Падмена паняццяў. А паколькі назвы Літва і Русь супадаюць з сучаснымі назвамі суседніх краін і народаў, дык адзінае, што мы можам зрабіць — гэта змяніць іх сучасныя назвы ў нашай мове. Літва — гэта гістарычная Літва на тэрыторыі сучаснай Беларусі і больш нічога. Літоўцы—нашыя з вамі продкі, пра што вам скажуць усе летапісы. Яны ж, летапісы, назавуць старабеларускую мову літоўскай. Сучасных нашых суседзяў мы мусім называць іхняю сучаснаю саманазвай, так, як гэта робіць беларуская эміграцыя: Летува — летувіс — летувіскі. Другіх нашых суседзяў трэба называць у старой (і яшчэ жывой) беларускай традыцыі — расейцамі, а краіну іх — Расеяй.

Трэба называць рэчы сваімі іменамі. А ў нас дакладнасці няма амаль у кожным слове, якім мы карыстаемся. Нацыяналізм прызнаны за шавінізм, нацыянальныя нігілізм — за інтэрнацыяналізм, касмапалітызм — за нацыянальны нігілізм. Як растлумачыць, што трэба класці падмурак, а не страху, калі і тое і тое называецца адным словам — будаўніцтва?

ЧАСАМ МНЕ ЗДАЕЦЦА, што пераацэнка, натуральнае развіццё беларушчыны гатова прарвацца ў наш побыт, у свядомасць мільёнаў людзей, і што гэта мы, «людзі культуры», найбольш гэты прарыў і стрымліваем. Мы — не прафесійныя беларускія нацыяналісты, а мы — аматары роднага слова, ручнікоў і задушэўнай песні. Гэта, між іншым, увесь набор нацыянальнага, рэгламентаваны сталіншчынай: псеўдаэтнаграфізм, псеўдафальклор, псеўдароднае слова (Саветы, напрыклад), ручнікі вакол партрэта Ільіча, зычна-зыкінская народная песня, балалайкі з домрамі ў аркестры беларускіх народных інструментаў. Глыбінная сутнасць падмены, якая адбылася ў гэтай справе, зноў жа вяртае нас да суадносінаў аб'ект — суб'ект. Перш трэба берагчы і развіваць суб'ект Беларусі — сябе і з сябе, — а не разглядаць Беларусь як аб'ект сваіх слёзных эмоцый, заклікаючы любымі сродкамі (напрыклад, пастановамі КПБ) гэты аб'ект ратаваць. Трэба зразумець, што без Беларусі не мы застанёмся абдзеленыя, а проста нас не будзе.

Трэба адмовіцца ад шаманства. І найперш — ад такіх аб'ектаў нашых эмоцыяў, як савецкі камунізм і У. Ленін. Пасля — адмовіцца ад «велічных постацяў» ва ўласнай гісторыі і культуры. Усялякі манументалізм тут — гэта прыкмета контррэфармацыі. Адраджэнне ж — гэта адраджэнне жывога.

500-годдзе Скарыны атрымалася канстатанцкае. Ніводнае арыгінальнае інтэрпрэтацыі! Між тым, толькі ін'екцыі новых ідэй падтрымліваюць сапраўднае жыццё ў такіх постацях. А што будзе з М. Багдановічам, пра якога ўжо ўсё сказана і дваццаць разоў паўторана? Зноў — урачыстае дунды-дунды?

Ці ж гэтак глядзіць наш адраджэнцкі працаўнік, скажам, на ўласнае жытло, якое: трэба было б змяніць на большае і бліжэй да цэнтра і рапарацыю зрабіць, новую газавую пліту паставіць, новае кола на «унімісу» (гарадская лексіка) прыдбаць і г. д. Тут ён — чысты рацыяналіст, прагматык. Але чаму дзве сферы жыцця сталіся для яго ўзаемавыключнымі? Духоўнае і фізічнае...

Індыкацыя паводле рацыянальнага - эмацыйнага і суб'ектыўнага-аб'ектыўнага дазваляе вызначыць, якія высілкі сённяшняга Адраджэння канструктыўныя, якія дэструктыўныя (а таму непатрэбныя). Напрыклад, вядомая спрэчка Н. Гілевіча з С. Букчыным. Гэта праява Беларусі-аб'екта, аддаленая спроба на беларускай глебе змадэляваць расейскую спрэчку «славянафілаў» з «касмапалітамі». У кожным разе сутнаць спрэчкі зводзіцца да процістаяння ўсялякіх філій усялякім фобіям, г. зн. — да эмоцый. Гэта з таго раздзела дэструктыўных высілкаў нашага Адраджэння, якія можна назваць — чужымі праблемамі, якія адбіраюць у нас шмат часу і энергіі.

Ужо ёсць прыклады поўнай інтэграцыі ў чужыя праблемы прадстаўнікоў тутэйшай творчай публікі. Напрыклад, А. Адамовіч і Э. Скобелеў, тэматыка і пафас выступленняў якіх усё больш неактуальныя для беларускага Адраджэння.

«Адмаўляеш — прапануй» — вось формула канструктыўнага дзеяння. Але мне больш даспадобы іншае, Абдзіраловічава: «творачы — зруйнуем». Мы ж пакуль больш адмаўляем: хто дазволіў? чаму не працуе закон пра мову? чаму раёнка перайшла на расейскую мову? чаму ўсё яшчэ не знішчаны сепаратыст Шэляговіч?..

Антыдзеянне нічога не дадае да нашага палітычнага і культурнага капіталу (калі гэта не самаачышчэнне, не самаўдасканаленне, у выніку якога той капітал падымаецца ў варгасці). Не ператварыцца б Адраджэнню ў адну вялікую скаргу. А такое ператварэнне, дарэчы, толькі на руку русіфікацыі і ўсялякім сепаратызмам.

Трэба адназначна зразумець, што Беларусь — калонія ў зусім неметафарычным сэнсе. Гэтак назолець Дземянцею і Сакалову, каб вялі сходы па-беларуску, можна. Можна вярнуць раёнку ва ўлонне мовы, але... Нельга будаваць здаровае нацыянальнае жыццё на зыбучым грунце псеўдабеларушчыны. А ўся савецкая «беларушчына» — гэта псеўда. Навошта нам чапляцца нацыянальным за атавізмы пакуль яшчэ дужых сацыяльных фантомаў, кшталту КПБ? Куды занясуць нас нясучыя канструкцыі гэтай арганізацыі з яе лідэрамі, друкам і апаратам? Ці не апынецца беларушчына ўрэшце на могілках камунізму?

**А вось у Бабруйску выйшла газета «Гоман». Самастойнае і ўжо амаль прафесійнае выданне, цікавае і па-беларуску. І нікім не інспіраванае, СВАЕ. «Навіны БНФ», «Унія», ксеранскныя беларускія газеты разам з найбольш дэмакратычнымі нацыянальнымі выданнямі, найперш з «ЛіМам» — вось хто заўтра будзе адстойваць і развіваць беларушчыну ў рыначнай канкурэнцыі з рускамоўнай і, як правіла, дэмаралізаванай прэсай. Пераможуць найлепш арганізаваныя і найбольш прафесійныя і згуртаваныя выданні.**

**Тут ключ мне бачыцца ў слове: СВАЕ. Я не веру ў тое, што мова — галоўнай перашкода для пашырэння друку. Больш за паўгода мы выдаём СВАЮ газету «Свабода», выдаём старой арфаграфіяй, без якой-кольвек сенсацыйнай «маліны» і кожны нумар разыходзіцца, і кожны нумар дае прыбытак, і няма ніякіх датацый. Ёсць свой штат, ёсць нармальныя ганарары. Іншая рэч — якімі высілкамі гэта ўсё дасягаецца. Але ёсць чытачы, ёсць пошта, ёсць водгук. І хоць нашае выданне яшчэ вельмі і вельмі далёкае ад таго, што можна было б назваць газетай, у нас не апускаюцца рукі. Усё залежыць толькі ад нас.**

**І таму я мала веру ў датацыі для нашых часопісаў, якія нікому не з'яўляюцца ў поўнай меры СВАІМІ, г. зн. не маюць непадзельнае адказнасці і поўнае свабоды чыннасці. Удыхнуць жыццё ў часопісныя структуры, фарміраваныя яшчэ пры Сталіне і Брэжневе — ці магчыма? Будучыня беларускага друку мне бачыцца ў прыватных ініцыятывах. Зрэшты, так па ўсім свеце і ёсць.**

Дзякуючы новым апазіцыйным аб'яднанням беларуская мова пачала ставаць мовай дэмакратыі, мовай антыкаланіяльнага змагання, мовай Свайго Дому, мовай апазіцыі і нязгоды. Трэба ўсяляк берагчы гэты набытак. Бо толькі ў такім выглядзе беларуская мова і можа спатрэбіцца свайму народу.

Што да сепаратызмаў, дык і тут усё вырашыцца толькі шляхам стварэння моцных і аўтарытэтных беларускіх асяродзяў у Пінску, у Ваўкавыску, у Горадні. Людзі выберуць самі. Калі ж будзе рашэнне ўрада і КПБ: ліквідаваць! альбо: заснаваць! — гэта толькі адштурхне людзей.

Сіла беларушчыны сёння — у апазіцыйнасці чужому ці марыянетачнаму афіцыёзу. Сіла яе і ў нашым адзінстве, на якое таксама трэба глядзець цвяроза.

Я разумею, што мы ўсе — за Беларусь. Але ўжо сёння мэта дыферэнцыюецца. Мы за розную Беларусь. І гэта нармальна. Нехта бачыць яе паранейшаму скамунізаванай, нехта — шматпартыйнай, нехта — увогуле беспартыйнай. Які аптымальны крытэрый нашай кансалідацыі, дакуль усе нацыянальныя сілы выступаюць разам? Такі крытэрый ёсць: мы — за Беларусь. І калі ў адраджэнца камуністычныя ці, скажам, панславянскія, русско-православные ці польска-каталіцкія ці яшчэ якія тэндэнцыі пераважаюць над нацыянальнымі — тады і скончаецца наша кансалідацыя.

Асабіста я не веру ў дэмакратычны інтэрнацыяналізм. І не магу прыняць як свае, беларускія, захады «Апреля» на Беларусі ці «Молодой гвардии», якой досыць непаслядоўна следуе часопіс «Маладосць». Я веру ў касмапалітызм, такі, якім прадставіў яго ў «ЛіМе» У. Конан. Касмапалітызм — гэта засвоеная чалавекам уласная нацыянальная сутнасць, гэта звышнацыянальнасць. І я цвяроза бачу, што ў слове «звышнацыянальнасць» галоўнае — нацыянальнасць, без якога «звыш» — службовае слова, не больш. І таму найперш я веру ў рацыянальны нацыяналізм. Гэта — зусім нераскрытыя патэнцыі беларушчыны, а значыць і нашае людскасці. Успомніце І. Абдзіраловіча: «Яны не ўцямілі, што разам з беларушчынай мы трацім і лепшую частку чалавечнасці».

*Пошукі, знаходкі*

# ГЭТАЕ МАЛЕНЬКАЕ ЖАБЯНЯ...

У пакоі супрацоўнікаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча звініць гучны міжгародні званок, і мы чуем бадзёры голас нашага ніжагародскага сябра А. Бараховіча: «Хутка буду ў Мінску, прывязу новы экспанат у музей — фарфоравае жабяня, якое належала... Лермантаву»,— гаворыць Аркадзь Якаўлевіч.

І вось мы трымаем у руках фарфоравую статуэтку: бурае, у цёмна-карычневых крапінках, з прыціснутымі да цела лапкамі, з чорнымі пацеркамі-вачамі ў чырвоных абадках жабяня. На жаль, час не пашкадаваў яго: злёгку адбіта ніжняя сківаца, пашкоджаны і пярэднія лапкі. На брушку надпіс: «Гарднеръ» (прозвішча заснавальніка вядомага фарфоравага завода), лічба «14» (азначае, магчыма, колькасць вырабаў) і фірменны знак.

Як жа трапіла гэта рэч сям'і Лермантавых у Ніжні Ноўгарад, дзе, як вядома, Міхаіл Юр'евіч ніколі не бываў? На гэтыя пытанні ўжо адказаў А. Бараховіч у сваёй публікацыі «...Навсегда сделалось радостью жизни» ў газеце «Курьер» Горкаўскай арганізацыі Саюза журналістаў СССР.

Аднойчы пры сустрэчы са сваёй знаёмай Наталляй Сяргееўнай Скварцовай Аркадзь Якаўлевіч даведаўся, што ў яе захоўваецца фарфоравае жабяня, якое належала М. Лермантаву. Н. Скварцова расказала, што цётка яе бабулі Еўдакія Дзмітрыеўна сваячка дзядзькі і камердынера Лермантава Сакалова. Ад яе і жабяня, якое належала па паданні Міхаілу Юр'евічу. Еўдакія Дзмітрыеўна паведаміла, што Елізавета Дзмітрыеўна Арсеньева, бабуля паэта, не магла дараваць Сакаловым, якія, на яе думку, не ўберaглі ўнука ад дуэлі і пагібелі, і ўсіх Сакаловых выселіла з Тархан.

Абрам Філіпавіч Сакалоў — прыгонны Е. Арсеньевай, служыў у яе ўпраўляючым, лічыўся чалавекам адукаваным і карыстаўся даверам памешчыцы. Яго сваяк Андрэй Іванавіч Сакалоў апякаў Міхаіла Юр'евіча з двухгадовага ўзросту, быў пры ім, што называецца, дзядзькам, а потым камердынерам.

18 лютага 1837 года, як вядома, за вершы, прысвечаныя памяці А. Пушкіна, М. Лермантаў быў арыштаваны. Да яго пускалі толькі камердынера Андрэя Сакалова, які прыносіў арыштаванаму ежу.

Удзельнікам падлеткавых гульняў М. Лермантава быў Іван Сакалоў, сын упраўляючага Е. Арсеньевай. Разам з Міхаілам Юр'евічам ён знаходзіўся ў Пецярбурзе, у юнкерскай школе, а ў 1841 годзе паэтавым камердынерам на Каўказе. У дзень дуэлі І. Сакалоў быў у Жалезнаводску, адкуль М. Лермантаў накіраваўся да паднsocжжа Машука.

Па ўспамінах А. Гвоздзева, які ў Пяцігорску пачуў аб дуэлі і паспяшаўся на кватэру Лермантава, ён убачыў там акрываўлены труп паэта і рыдаючага над ім слугу.

У красавіку 1842 года па волі Е. Арсеньевай труна з целам паэта была дастаўлена з Пяцігорска ў Тарханы і пахавана ў фамільным склепе. Гэта жалобнае даручэнне выканаў А. Сакалоў разам з І. Сакаловым. Ад Андрэя Іванавіча ў музей Інстытута рускай літаратуры (Пушкінскі дом) і ў музей-запаведнік «Тарханы» перайшлі асабістыя рэчы паэта: шкатулка, чувякі, эпалеты і партрэт работы Забалоцкага. У Пушкінскім доме захоўваецца бумажнік, які Лермантаў падарыў маладому камердынеру Івану Сакалову.

А фарфоравае жабяня, па паданнях, засталося на ўспамін у Сакаловых. У Ніжні Ноўгарад яно трапіла ў 1910 годзе.

Адносна Андрэя Іванавіча вядома, што ў 1843 годзе ён атрымаў вольную, жыў у асобным флігелі гарадской сядзібы, васьмідзесяцігадовым старцам памёр у 1875 годзе.

Андрэй Іванавіч стаў героем многіх літаратурных твораў, у прыватнасці твора А. Марыенгофа «Нараджэнне паэта». У ім апісаны канфлікт маленькага Мішы са стрыечнымі братамі Пажогінымі, якія абазвалі яго жабянём. Канфлікт не без удзелу Андрэя Іванавіча быў уладкаваны, а Міша, супакоіўшыся, накідаў карыкатуру з крываногім дабрадушным жабянём.

А савучань Лермантава па Маскоўскім універсітэцкім пансіёне А. Міклашэўскі ў сваіх нататках напісаў: «Усім нам таварышы давалі розныя мянушкі. У памяці ў мяне захавалася, што Лермантава, не ведаю чаму, празвалі жабянём».

Ці не ўспамінам дзяцінства было фарфоравае жабяня іранічнага і ў адносінах да сябе паэта?

У Маскве А. Бараховіч наведаў музей М. Лермантава, дзе паэт жыў у 1830—1832 гг. Расказаў дырэктару музея аб лермантаўскім жабяняці. «Версія вельмі пераканаўчая,— пацвердзіла яна.— Былі б рады набыць».

Але экспанат адзін. І са згоды Наталлі Сяргееўны жабяня перададзена ў фонд Літаратурнага музея Максіма Багдановіча. Можа, таму, што М. Багдановіча называюць беларускім Лермантавым, бо паміж імі шмат агульнага. У абодвух вялікі талент, а жыццё іх было трагічна абарвана ў самым росквіце — у дваццаці пяцігадовым узросце. Вядома, што М. Багдановіч захапляўся і высока цаніў паэзію М. Лермантава. Сярод яго твораў ёсць артыкул «Адзінокі», напісаны да стагоддзя з дня нараджэння Лермантава.

У А. Бараховіча і асабістая прыхільнасць да асобы М. Багдановіча. Ён з'яўляецца мужам адной з пляменніц М. Багдановіча — Анастасіі Глебаўны Кунцэвіч. Праводзіць вялікую пошукавую, даследчыцкую і прапагандысцкую работу жыцця і творчасці М. Багдановіча, перакладае на рускую мову вершы як Багдановіча, так і іншых беларускіх паэтаў.

**В. БЯЛЯУСКАЯ,**
**галоўны захавальнік фондаў Літаратурнага музея М. Багдановіча.**

**Супрацоўнікі рэдакцыі часопіса «Маладосць» выказваюць глыбокае спачуванне супрацоўніцы часопіса Башак Валянціне Мікалаеўне ў сувязі са смерцю МАЦІ.**

*Пошукі, знаходкі*

# Бацька Івана і Антона



МЯНЕ заўсёды цікавілі неардынарныя постаці Івана і Антона Луцкевічаў. Іх сумысля кідалі ў цемень забыцця, а калі і ўспаміналі, то пад знакам мінус. Прытым трактаваліся як ворагі свайго ж беларускага народа, якому яны так шмат аддалі сіл і энергіі, творчага запалу, энтузіязму. Тут нейкі парадокс. Памылкі? Яны могуць быць у кожнага чалавека. У каго болей, у каго меней, але каб адразу ярлык навесіць і каб за ім і чалавека не было відаць — гэта ўжо занадта. І добра, што з'явіліся першыя грунтоўныя публікацыі пра Луцкевічаў, асабліва пра Антона, якую напісаў Анатоль Сідарэвіч.

Я ж тут хацеў бы сказаць пра бацьку гэтых братоў-падзвіжнікаў, бо пра яго ніхто ніколі ні словам не абмовіўся. Ён жа, па-людску разабраўшыся, дык і энцыклапедыі нашай варты. Іван Якімавіч Луцкевіч — сам постаць. Тут я прывяду толькі першыя звесткі, якія ўдалося адшукаць у архівах і паводле ўспамінаў яго ўнукаў.

Нарадзіўся Іван-Баляслаў Якімавіч Луцкевіч у 1831 годзе ў сям'і дробнага шляхціца гербу «Навіна». Меў нейкую адукацыю, бо ў гераічнай абароне Севастопаля ў 1854—1856 гадах удзельнічаў у чыне штабс-капітана рускай арміі. Вытрымаў напружанасць 349-дзённай абароны. Быў паранены. Тое, аб чым пісаў Леў Талстой у сваіх севастопальскіх апавяданнях, наш герой адчуў уласнай скурай.

Вярнуўся афіцэр дамоў з баявымі ўзнагародамі. На Бацькаўшчыне ён улавіў першыя зрухі ў грамадскім жыцці, подых пэўных перамен, хоць яшчэ далёкіх ад рэальнага іх ажыццяўлення. Пакуль што толькі першыя прыкметы непадуладнасці смелых і мужных грамадска-палітычнаму ладу. Выспявалі перадумовы паўстання 1863—1864 гадоў. Пранікаўся новымі ідэямі і былы афіцэр. У самым пачатку выступлення народнай плыні І. Луцкевіч ушчыльніў сабой шэрагі інсургентаў, адважна ішоў з імі ў атаку.

Пад Мінскам паўстанцкі атрад сутыкнуўся з рэгулярнымі царскімі войскамі. Інфармацыя пра той бой пакуль што вельмі сціплая. Паводле ўспамінаў дачкі І. Луцкевіча—Эміліі Іванаўны Шабуні (1887—1974), гэты атрад быў дастаткова мабільны, няўлоўны. Адна з сур'ёзных сутычак, па ўспамінах яе бацькі, адбылася ў лесе, на тым месцы, дзе сёння стаіць чыгуначны вакзал станцыі Мінск. Яшчэ трэба высветліць падрабязнасці той падзеі, а пакуль што задаволімся гэтай інфармацыяй.

Што здарылася далей з І. Луцкевічам, гісторыя маўчыць. Не выключана, што і ён трапіў у царскую няміласць і, магчыма, яго таксама «папраўляла» ссылка. Гэта толькі здагадкі. Але ж як знік нечакана, так і з'явіўся зусім нечакана.

Пад Бабруйскам у Тарасевічах на гадавое свята Спаса збіраўся народ. Трапіў на той фэст і Іван Якімавіч, які арандаваў зямлю ў Тарасевічах. Гаспадар жа маёнтка прымаў і шаноўнага госця—Вінцэнта Іванавіча Дуніна-Марцінкевіча. Адбылася сустрэча трох блізкіх па духу людзей. І гэта пры тым, што паэт у гэтай кампаніі быў самым старэйшым. Сам гаспадар маёнтка Ксаверый Вайніловіч знаёміў прыезджых са сваёй хатняй калекцыяй, рупліва сабранай у апошнія гады. Зрабіла добрае ўражанне наведанне прыгожых мясцін і на паэта. Той напісаў верш «Заўтра Спаса, кажуць людзе». І дата стаіць: 5 жніўня 1868 года.

**Заўтра Спаса, кажуць людзе,**
**У Тарасэвічах кірмаш будзе:**
**Трэба ехаць, падзівіцца,**
**У цэркві Богу памаліцца,**
**Потым шмыгнуць да двара,**
**Павіншаваць гаспадара.**
**— Паночку Яночку! Дай табе Божэ**
**За год даждаці святога Спаса,**
**Каб як лес расло ўсякае збожжа,**
**Дык будуць пірагі і густая каша;**
**Не купляй мяса, а з свае гавяды,**
**Здаровай, маладой і тлустай, як лані,**
**Кармі сямейку, гасцей і чэлядзь,**
**Дык ужо ж тады будзеш панам на ўсе сані!**
**У бочках, яндоўках і ўсякай пасудзе,**
**Каб не выбіралась гарэлка, мёд, піва,**
**Няхай п'юць удоваль добры і злы людзе,**
**На завісць непрыяцелям і ўсім на дзіва.**
**Кінь жыццё бурлацкае, а пашукай жонкі**
**Маладой прыгожай і любячай цябе,**
**Каб усе зайздросцілі і глыталі слінкі.**
**Тады будзеш шчасліў, жывучы як у небе.**
**А за тое, хоць дурное, маё прывітанне**
**Дай чарку гарэлкі, ды палюбі шчыра — то з мяне і стане.**

5 серпня 1868 року. Карытна.

Пад перапісаным ад рукі вершам паэт не паставіў свайго прозвішча, лічачы, што гэта экспромтная замалёўка, якая не мае значэння для яго творчай спадчыны. Адзін экземпляр В. Дунін-Марцінкевіч уручыў гаспадару дома К. Вайніловічу, а другі І. Луцкевічу. Верш быў апублікаваны ў 1902 годзе ў «Минском листке». Заядлы калекцыянер выпрасіў у К. Вайніловіча лісток верша ў сваю калекцыю, а другі экземпляр быў у сям'і Івана Якімавіча Луцкевіча. Здаецца, зараз няма арыгіналаў. Адзін загінуў у часе апошняй вайны пры пажары ў Варшаве, дзе знаходзіўся архіў Р. Зямкевіча.

Праўда, мне нядаўна напісала пісьмо Аляксандра Рыгораўна Бергман. Яна на падставе сведчанняў А. Абрэмбскай-Яблонскай сцвярджае, што дом, у якім жыў Рамуальд Зямкевіч, не згарэў, а значыць, засталася надзея на адшуканне беларускіх рэліквій, хоць гэта вельмі і вельмі сумніцельна. Усё ж — а раптам...

Верш «Заўтра Спаса, кажуць людзе» быў надрукаваны і ў зборніку «Заходняя Беларусь» (Вільня, 1924). Вядома ж, тут парупіўся сын Івана Якімавіча Луцкевіча — Антон.

Які ж далейшы лёс старога Луцкевіча? Пасля крытыкі В. Дуніна-Марцінкевіча ён ажаніўся з «маладой, прыгожай і любячай» Зосяй Лычкоўскай. Ён стаў часта бываць на Маладзечаншчыне, у вёсцы Ракуцёўшчыне, дзе жыла сям'я Лычкоўскіх. Пайшлі дзеці Іван, Антон, Эмілія, Сцяпан. Іван Якімавіч стаў адным з першых беларускіх чыгуначнікаў. Службовыя абавязкі завялі яго сям'ю ў Лібаву, Шаўлі. Потым пайшоў у адстаўку і пасяліўся ў Мінску, на беразе Сзіслачы, на вуліцы Крашчэнскай, 27 (або Пясчанскай). Пазней гэта вуліца атрымала назву Садовая. Заўважым, што ў 1920—30-х гадах тут стаяў дом Янкі Купалы.

Іван-Баляслаў Якімавіч Луцкевіч памёр у 1895 годзе і пахаваны на Кальварыйскіх могілках. Засталася яго сям'я. Старэйшы сын Іван (1881—1919 стаў археолагам, збіральнікам першага беларускага нацыянальнага музея ў Вільні, які атрымаў яго імя. Антон Іванавіч Луцкевіч (1884—1946) стаў не толькі палітычным дзеячам, але і выдатным літаратурным крытыкам, аўтарам некалькіх кніг. Дачка Эмілія Іванаўна была замужам за інжынерам Аляксандрам Шабунем, брат якога Антон браў самы актыўны ўдзел у стварэнні беларускай сацыялістычнай грамады. Летам 1911 года Эмілія Шабуня з маленькай дачкой Янінай адпачывала ў Ракуцёўшчыне, дзе тады жыў Максім Багдановіч. Паэт расказваў казкі малой Янінцы.

Далейшы лёс сям'і Шабуняў аказаўся вельмі складаным. У міжваенны час яны былі суседзямі Я. Купалы, сустракаліся, дзяліліся навінамі. Пачалася Вялікая Айчынная вайна. Гарэў горад, гарэў гістарычны музей. Першым, хто кінуўся ратаваць экспанаты, быў унук І. Луцкевіча — Эдвард Аляксандравіч Шабуня (1915—1990), —інжынер-будаўнік. Сям'я Шабуняў пад час акупацыі была вывезена ў Нямеччыну. Пасля вайны перабраліся ў ЗША. Там і памерла Эмілія Іванаўна. Жыве цяпер яе дачка Яніна Аляксандраўна, якую Максім Багдановіч насіў на руках і гаварыў ёй усякія забаўлянкі. А што ж далей, хто яшчэ цікавы з роду старога Луцкевіча? Ёсць. Дачка Яніны Аляксандраўны Шабуні-Каханоўскай — спадарыня Юлія Андрусішына таксама не абдзелена талентам. Яна выдатная рукадзельніца, мастачка-прыкладніца. А яе сын — усім вядомы Данчык, беларускі спявак, песні якога палюбіліся і старому і малому. Гэта ўжо прапраўнук Івана Якімавіча Луцкевіча. І які талент!

Я не сказаў пра лёс Сцяпана Луцкевіча (1889—1947), выдатнага хірурга, які і Купалу ратаваў у цяжкую мінуту, аказаўшы першую дапамогу. Ёсць яшчэ адгалінаванні моцнага беларускага дрэва Луцкевічаў, што жывуць у Вільні, Ленінградзе і іншых месцах.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**




**З 5 ПА 11 ЛІСТАПАДА**

**6 лістапада. 19.20**
**«ПЕРШАМУ БЕЛАРУСКАМУ — 70 ГОД»**

Рэпартаж са святочнага вечара, прысвечанага 70-годдзю тэатра імя Янкі Купалы.

**6 лістапада. 21.50**
**ЛІРА**

Мастацка-публіцыстычная праграма прысвечана Тарасу Шаўчэнку. Бяруць удзел пісьменнікі Б. Алейнік, В. Зуёнак, Я. Ісаеў, артыст Э. Гарачы.

**7 лістапада. 19.40**
**РАДАВОД**

Запрашаем на вячоркі. «Вясельны абрад».

Выступаюць фальклорныя ансамблі вёсак Крамно, Мікіцк, Бездзеж Драгічынскага раёна.

**8 лістапада. 15.30**
**ПЕСНЮ ВОЗЬМЕМ З САБОЮ?**

Музычна-публіцыстычная праграма.

**8 лістапада. 19.40**
**ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ**

Народная артыстка СССР С. Станюта.

**9 лістапада. 17.50**
**ДЗВІНА**

Літаратурна-мастацкі часопіс.

Першы сюжэт прысвечаны памяці У. Караткевіча.

Віцебскае аддзяленне Саюза мастакоў БССР папоўнілася вялікім атрадам моладзі. Гэтай падзеі прысвечана старонка часопіса.

Гледачы пачуюць песні А. Гарбатоўскага.

Апошні сюжэт прысвечаны творчасці артысткі Любові Цімохавай.

**9 лістапада. 19.20**
**«АДРАДЖЭННЕ»**

Культурна-асветніцкая праграма.

Гаворка пойдзе пра У. Караткевіча, яго ўклад у абуджэнне самасвядомасці беларусаў. Сюжэты, знятыя ў Гальшанах, стануць тэмай размоў пра стан рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры.

Наступная старонка прысвечана славутаму мастаку, нашаму земляку М. Шагалу.

Завершыць праграму гутарка са старшынёй Віцебскай рады ТБМ пісьменнікам У. Папковічам.

Вядучы — мастацтвазнаўца В. Ракіцкі.

**9 лістапада. 21.40**
**У ТЭАТРАХ РЭСПУБЛІКІ.**

П. Вайс. «Ганенне і забойства Жана-Поля Марата».

Спектакль Рэспубліканскага тэатра юнага гледача імя 50-годдзя ЛКСМБ.

## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

**М. АЎРАМЧЫК.** Анкета. Выбраныя вершы, паэмы, успаміны. Прадмова Р. Барадуліна. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990. — 2 р. 10 к.

**Т. ГУЛІНА.** Езуіты ў Беларусі. Мн., «Беларусь», 1990. — 1 р. 80 к.

**ДАЛЯГЛЯДЫ,** 1990. Укладанне А. Гардзіцкага. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990. — 1 р. 70к.

**Л. ГЕНІЮШ.** Белы сон. Вершы і паэмы. Укладанне і прадмова Б. Сачанкі. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990. — 2 р.

**В. ЖУКОВІЧ.** Разняволенне. Лірыка. Публіцыстыка. Гумар. Мн., «Мастацкая літаратура», 1990. — 80 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.